


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

18 СТУДЗЕНЯ 2002г. № 3/4137 КОШТ 275 РУБ.



На мове шчасця...

Фота Ю. ЗАХАРАВА

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы!*

*Напамінаем, падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе працягваецца. Яе можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў, на пяць — 5500 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры — 7500 рублёў, на пяць — 12500 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**



# КОЛА ДЗЁН

***Гэты лімаўскі тыдзень можна, бадай, назваць стомленым. Не Парыжам, вядома, як выказаўся адзін наш выбітны паэт, ці, прынамсі, ягоны лірычны герой. Тыдзень стомлены... святамі. Столькі святочных (у сэнсе выхадных) дзён выпала на першую дэкаду студзеня, што і другая ўсё яшчэ ачуньвае-адсапваецца ад абібоцтва і апівоцтва. А ў дадатак і сама прырода быццам таксама паддалася стоме і расслабілася — маразы адпусцілі, зіма заадліжыла...***

***Карацей кажучы, тыдзень выдаўся не проста спакойна-будзённы, а нейкі самотна-шэранькі, непаглядны, мала чым адметны.***

## ПРЫБОР ТЫДНЯ

Сімвалічнае (ці больш дакладна — сімптаматычнае) супадзенне. Якраз на гэтым "стомленым" тыдні друк паведаміў аб стварэнні спецыяльнага прыбора, які дае магчымасць колькасна ацаніць ступень стомленасці чалавека пры любым відзе дзейнасці — фізічнай і разумовай. Ідэя прыбора належыць доктару медыцынскіх навук Валерыю Дзядзічкіну. Невялікаму кішэннаму індыкатару досыць дзесяці секунд, каб вызначыць гэтую самую ступень стомленасці і ў адносных адзінках вывесці яе на экран. Прыбор вельмі патрэбны вадзіцелям-дальнабойшчыкам, лётчыкам, машыністам электрацягнікоў і г.д. На жаль, у серыйную вытворчасць прыбор не запушчаны — на гэта няма сродкаў.

## МІТЫНГ ТЫДНЯ

Па праўдзе кажучы, адбыўся ён на стыку мінулага і гэтага тыдняў — 11 студзеня. Адбыўся ў "сталіцы беларускіх шахцёраў" (даўні газетны штамп) Салігорску. Ажно амаль пяць тысяч чалавек сабралася на заснежаным стадыёне "Будаўнік", каб выказаць сваю нязгоду з вядомай пастановай Савета Міністраў краіны аб адмене безнаяўнай уплаты членскіх прафсаюзных узносаў. Мітынг прайшоў спакойна, доўжыўся каля гадзіны, завяршыўся прынясцем досыць памяркоўнай, хоць і зусім пэўнай па змесце рэзалюцыі. Аднак жа, як слушна адзначаецца на старонках неапазіцыйнай "Народнай газеты", "дастаткова прыгадаць забастоўкі, якія пачыналіся ў шахцёрскім калектыве і потым скаланалі краіну..."

## ДАПЛАТЫ ТЫДНЯ

Пастановай Савета Міністраў Беларусі павышаны дапамогі і даплаты насельніцтву, якое пацярпела ад аварыі на ЧАЭС. Цяпер месячная дапамога на кожнага члена сям'і ў зоне з перыядычным радыяцыйным кантролем складае 1111 рублёў (было 833), у зоне з правам на адсяленне — 1441 рубель (было 1081), у зонах наступнага і першачарговага адсялення — 2219 рублёў (было 1664 рублі). Вызначаны даплаты і некаторым іншым катэгорыям так званых чарнобыльцаў. Павышэнне нібыта і значнае (ажно на 33 працэнты!), аднак жа сумы дапамог і даплат усё ж як былі мізэрныя, такімі ж мізэрнымі і засталіся: на іх можна купіць дзесятак яек, ці адну бутэльку алею, ці пару кілаграмаў цукру, ці 3-4 бохана хлеба...

## ПАСТАЎКІ ТЫДНЯ

Гэтая навіна — з шэрагу прыемных. Летува аднавіла — пасля запуску першага энергаблока Ігналінскай АЭС, які быў спынены 29 снежня мінулага года на прафілактычны рамонт — пастаўкі электраэнергіі ў нашу краіну. Ужо ў студзені Беларусь атрымае яе каля 350 мільёнаў кілават-гадзін. Гэта досыць важкая "кропля" ў наша энергетычнае мора...

## ЭСТАФЕТА ТЫДНЯ

І ў гэтую намінацыю папрасілася згаданае ўжо слова "сталіца", прытым у шматразовым і, на жаль, горкім ужытку. "Сталіцай" наркаманіі ўжо не першы год называюць журналісты, працаўнікі аховы здароўя і аховы грамадскага парадку горад энергетыкаў і хімікаў Светлагорск. І вось цяпер друк з трывогай паведаміў, што другой наркаманскай "сталіцай" на Гомельшчыне можа стаць горад нафтахімікаў і салявараў Мазыр, які ўсё часцей трапляе ў поле зроку наркадзялкоў. Толькі летась было спынена 20 спроб увозу сюды наркатычных сродкаў (часта заадно і зброі). А колькі не спынена? Шкада будзе, калі Мазыр, гэтая прыпяцкая жамчужына, "сталіца беларускай Швейцарыі", займее іншы, ганебны статус...

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

У студзені звычайна пасумоўваюцца вынікі мінулага года. Сталі вядомы, сярод іншых, і такія лічбы гэтага падсумоўвання. За мінулы год за незаханне (а працей — за парушэнне) заканадаўства аб працы да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута амаль 9 тысяч службовых асоб. Яны аштрафаваны на 52,7 мільёна рублёў. З-за парушэнняў патрабаванняў аховы працы прыпынялася дзейнасць 88 цэхаў і больш чым 700 вытворчых участкаў. І яшчэ адна лічба. На 4576 прадпрыемствах былі выяўлены парушэнні з выплатай заработнай платы. Лічбы выклікаюць дваякае пачуццё. Што ажыццяўляўся кантроль, выяўляліся парушэнні і караліся вінаватыя — гэта быццам бы добра. Але ж чаму іх гэтак шмат, розных парушэнняў і адступленняў ад законаў, пры такім татальным кантролі?

## ПАДАРУНАК ТЫДНЯ

Зусім нядаўна па расійскіх тэлеканалах прайшла інфармацыя аб вяртанні з Лондана ў Расію адной з карцін Венецыянава. І дайце веры: з таго ж Лондана, з берагоў туманнага Альбіёна, прыбудзе адна карціна і ў Беларусь. Яе пад назвай "Зімовы пейзаж" намалявала пад уражаннем успамінаў пра сваё дзяцінства, праведзенае ў Міры, княгіня Надзея Святаполк-Мірская, адна з нашчадкаў славутага беларускага роду. Карціну перадала Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Беларусі ў Вялікабрытаніі Валерыю Садоху дачка княгіні-мастачкі Марыя Святаполк-Мірская з пажаданнем, каб карціна была размешчана ў адной з залаў адрэстаўраванага Мірскага замка. Хай бы гэта стала добрым прыкладам і для іншых нашчадкаў шматлікіх магнацкіх родаў Беларусі — нам вельмі важна, проста неабходна вяртаць і мацаваць повязь вякоў і пакаленняў...

## ЗАРЫВА ТЫДНЯ

На апошняй калегіі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях было паведамлена, што летась у выніку пажараў загінулі 1083 чалавекі. Лічба не проста ўражвае, а — скаланае! Гэта, жахліва сказаць, не проста 1083 заўчасныя, гвалтоўныя смерці. Гэта 1083 пакутныя смерці, да ўсяго — смерці дзяцей, бо вельмі вялікая частка ахвяр пажараў — акурат дзеці, найперш малыя дзеці, немаўляты. Нельга не адзначыць і таго, што ці не пераважная большасць пажараў здараецца ў дамах і кватэрах адзінокіх, бездапаможных людзей і па прычыне п'янства. Вось і атрымліваецца, што зарыва пажараў высвятляе і іншыя нашы праблемы: алкагалізм, які набывае ўсё большы разгул паўсюдна ў нас, і сацыяльная неўладкаванасць, бездапаможная адзінота старых людзей, галоўным чынам у нашых забытых Богам, абязлюдзелых вёсках...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

На сустрэчу з Яўгенам Каршуковым у бібліятэку СБП сабраліся навучэнцы гандлёвага вучылішча, літаратары, прадстаўнікі Міністэрства абароны, Камітэта пагранічных войскаў. Імпрэза была прысвечана 70-годдзю пісьменніка.

Цёплыя словы ў адрас юбіляра гаварылі вядучы вечарыны Навум Гальпяровіч, Анатоль Вярцінскі, Павел Місько, Уладзімір Мехаў, Алесь Пісьмянкоў, Аляксандр Шабалін і іншыя. Старшыня Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава ўручыла юбіляру Ганаровую грамату СБП. Навучэнцы чыталі вершы Яўгена Каршукова.

У заключэнне выступіў сам юбіляр, які падзякаваў прысутным за ўвагу да яго творчасці, прачытаў новыя вершы.

●

Адбылося пасяджэнне камісіі, якая абмяркоўвала кандыдатуры для помніка Змагарам за беларускую мову, ініцыятарам стварэння якога з'яўляецца Анатоль Белы. У складзе камісіі В. Іпатава, А. Ліс, У. Содаль, Л. Лыч і А. Белы. Кандыдатуры будуць вынесены на шырокае грамадскае абмеркаванне.

●

Вечарына, прысвечаная 85-годдзю з дня нараджэння Міхася Калачынскага, адбылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Ладзілі яе музейшчыкі разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

Кароткім уступным словам імпрэзу адкрыў намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч. Вершы М. Калачынскага прагучалі ў выкананні загадчыка літаратурнай часткі тэатра "Вольная сцэна" Івана Чэркаса і юнага чытальніка Глеба Шаўлюка. Успамінамі пра Міхася Іванавіча падзяліліся пісьменнікі Кастусь Цвірка, Генрых Далідовіч, Леанід Яўменаў, Мікола Гроднеў, Казімір Камейша.

Цёпла сустрэлі прысутныя выступленне земляков М. Калачынскага з Крупак, якіх прадставіла дырэктар Крупскага гісторыка-краязнаўчага музея Тацця Белая, і вакальнага дуэта ў складзе Тацяны Шкадзінскай і Наталлі Стахоўскай.

Апошні верш паэта "Запавет" прачытала яго дачка Ларыса Міхайлаўна.

●

"Второй уровень" — так называецца новая кніга пісьменніка Сяргея Трахіменка, прэзентацыя якой адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы. Сярод выступоўцаў былі калегі аўтара пісьменнікі Навум Гальпяровіч, Ала Канапелька, Анатоль Аўруцін і іншыя. Прысутныя маглі пазнаёміцца з кароткаметражным фільмам, прысвечаным творчасці С. Трахіменка, песнямі і рамансамі ў выкананні беларускіх і маскоўскіх артыстаў.

**Н. К.**

ВІНШУЕМ!

# Ад Дантэ да Байрана



*На здымку: Уладзімір СКАРЫНКІН у Рыме ля магілы Дантэ.*

"Я не перакладаў "Боскую камедыю", — сцвярджае Уладзімір Скарынкін, — я яе пераствараў, пераўвасобіў на беларускую мову".

Як падкрэсліў навуковец Уладзімір Конан, Скарынкін стаўся абраннікам Дантавай музы: "Кожная паэтычная мова мае свае багатыя "засекі" выяўленчых сродкаў, яны няспынна папаўняюцца чарговай генерацыяй таленавітых літаратараў. Для мяне цяплейшай і багацейшай застаецца родная мова. Глыбей кладуцца на сэрца яе напеўныя інтанацыі і пластычная жывапіснасць. Яны мне бачыліся і чуліся, калі перачытваў "Боскую камедыю" ў перакладзе Скарынкіна".

І яшчэ адна цытата, словы загадчыка секцыі італьянскай мовы лінгвістычнага універсітэта, кіраўніка беларускай філіі міжнароднага таварыства "Дантэ Алігʼеры" Фёдара Міхасенкі: "Перакладчык стварыў новую моўную рэальнасць, такі паэтычны тэкст на роднай мове, які ўвабраў у сябе ўсю звышскладаную паэтычную сістэму вобразаў "Камеды", яе сімволіку, паступальны рух думкі геніяльнага аўтара..."

Беларускамоўны варыянт "Боскай камедыі" — ужо частка сусветнай культуры, частка сусветнай гісторыі. Літаратурная і даследчыцкая праца, распачатая Уладзімірам Скарынкіным у 92-ім, завершана. Зараз асобнікі беларускамоўнай "Камедыі" знаходзяцца ва ўсіх буйнейшых бібліятэках Еўропы, на кафедрах славістыкі італьянскіх універсітэтаў. Беларуская мова годна гучыць ва ўсім свеце.

Летась у Рыме, у Фларэнційскім палацы, паэту Уладзіміру Скарынкіну была ўручана прэмія Нацыянальнага таварыства "Дантэ Алігʼеры". За бліскучы пераклад, за асветніцтва, за пераасэнсаванне духоўнай спадчыны і распаўсюджванне ідэй гуманізму. Прэмію ўручылы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Італіі Наталля Дрозд. А генеральны саветнік прэзідэнта Нацыянальнага таварыства "Дантэ Алігʼеры" прафесар Італа Борцы адзначыў у сваім урачыстым выступленні, што пераклад паэтычнага твора — гэта заўжды акт любові. Менавіта гэтае пачуццё і натхніла беларускага паэта на сапраўды тытанічную працу, па вартасці ацэненую ва ўсім свеце.

Цырымонія ўручэння прэміі адбылася ў дзень 480-х угодкаў з дня смерці Дантэ. Пра ўручэнне прэміі беларускаму паэту напісалі ўсе італьянскія газеты. Родная афіцыйная Беларусь успрыняла навіну з заўсёднай стрыманасцю.

Італію Уладзімір Максімавіч наведаў у якасці турыста. Калі атрымаў выклік з Рыма, па чынавенскіх кабінетах не бегаў, а набыў звычайную турпуцёўку. Разам з жонкай пабываў у Фларэнцыі, Равэне, дзе пахаваны Дантэ. Што ўразіла ў замежжы? Ды тое, што ўражвае там любога беларуса, — адносіны да роднай зямлі, людзей, культуры.

Але паэт на тое і паэт. Дзень сённяшні, будзённы і шэры, для яго толькі масток паміж мінуўшчынай і будучыняй. Скарынкін вандруе са свету Дантэ ў свет Байрана. Зараз заняты перакладам "Дон Жуана". Праца складаная, будзе доўжыцца не адзін год. Але ў гэтым яе асноўная прывабнасць. Паэтавыя пакуты — заўжды салодкія...

**НАШ КАР.**

# Прысвечана Сцяпану Александровічу

15 снежня споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Хусейнавіча Александровіча (1921—1986) — пісьменніка, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі. Лёс і жыццё вядомага даследчыка літаратуры самым непасрэдным чынам звязаны з філалагічным факультэтам, з кафедрай беларускай літаратуры, на якой ён адпрацаваў больш за 20 гадоў. З нагоды знамянальных угодкаў тут былі праведзены навуковыя чытанні, прысвечаныя гэтай знамянальнай даце.

Падзяліцца сваімі ўражаннямі, успамінамі пра вядомага вучонага, педагога прыйшлі яго былыя вучні, паплечнікі, калегі, родныя і блізкія, а таксама земляки. З прывітальным словам да ўдзельнікаў чытанняў звярнулася загадчык кафедры беларускай літаратуры XX ст., доктар філалагічных навук, прафесар Л. Сінькова. У сваім выступленні яна адзначыла вялікі ўнёсак С. Х. Александровіча ў беларускую навуку і асветніцтва, асабліва падкрэслівшы, што вучоны такога рангу мог зрабіць гонар любому самаму прэстыжнаму універсітэту свету. Сярод удзельнікаў і гасцей былі член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар А. Лойка, які згадаў пра гады сумеснай працы на кафедры беларускай літаратуры, звярнуў увагу на выключную эрудыцыю, дасведчанасць, навуковую і чалавечую прынцыповасць свайго калегі і сябра, яго высокую патрабавальнасць да сябе і да іншых. Працы С. Александровіча, падкрэсліў выступоўца, вызначаюцца глыбокім асвятленнем самых розных праблем развіцця беларускай літаратуры, беларускага кнігадрукавання і перыядычнага друку на Беларусі. Кандыдат філалагічных навук Я. Янушкевіч, былы вучань С. Александаровіча, які выказаў словы ўдзячнасці свайму настаўніку, што заўсёды быў прыкладам самаадданага, высакароднага служэння справе, вернасці прафесійнаму абавязку. Дачка, загадчык сектара даведачнай і метадычнай літаратуры Выдавецкага цэнтра БДУ І. Александровіч, цёплымі словамі згадала свайго бацьку, падзякавала студэнтам і выкладчыкам філалагічнага факультэта за тое, што яны захоўваюць добрую памяць пра С. Александровіча, што ў яго ёсць удзячныя вучні, таленавітая студэнцкая моладзь, якія лічаць сваім гонарам працягваць ідэю спасцікэння гісторыі праўды, ідэю ўваскрэсення "памяці карэння", чаму прысвяціў усё сваё жыццё яе бацька.

Шчырыя, сардэчныя словы ў гонар С. Александровіча сказалі сябра згуртавання беларускіх татараў "Аль-кітаб" Р. Александровіч, прафесар кафедры сучаснай беларускай мовы У. Лазоўскі, старшы выкладчык кафедры методыкі і рыторыкі, кандыдат філалагічных навук Н. Рашэтнікава, а таксама загадчык кафедры гісторыі беларускай літаратуры М. Хаўстовіч, дацэнты кафедры беларускай літаратуры XX ст. А. Верабей, В. Максімовіч, А. Пашкевіч.

**В. М.**

ІМПРЭЗЫ

# Юбілейны Коласаўскі год пачаўся...



У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адразу пачаўся юбілейны Коласаўскі год. Першым са шматлікіх мерапрыемстваў, якія запланаваны музеем у рамках святкавання 120-годдзя народнага паэта Беларусі, была прэзентацыя кампакт-дыска вакальнага калектыву "Берагіня" Стаўбцоўскай школы мастацтваў пад кіраўніцтвам Тамары Барахавай. Усе ўдзельніцы ансамбля — выкладчыцы музыкі, таму яны надзвычай адказна паставіліся да падбору канцэртнага рэпертуару і зместу першага кампакт-дыска "Сон-трава". Калектыў неаднойчы гастраляваў па Беларусі, а таксама ў Расіі, Францыі.

Трэба ўзгадаць этымалогію назвы "Берагіня". У старажытнаславянскім свеце так любасна называлі ахоўніцу чалавечага жытла, заступніцу-маці. Таму неад'емным бачыцца ў кожным выступленні дзяўчат матыў чароўнага свету кахання, любові. На дыск запісана каля 20 твораў розных песенных жанраў. Сярод іх песні на словы беларускіх паэтаў, а таксама аўтарскія творы кіраўніка калектыву Тамары Барахавай.

Акрамя самадзейных артыстаў, на вечарыне выступалі і знаныя майстры музыкі. Госць свята кампазітар Ігар Лучанок выканаў песню на верш Якуба Коласа "Каханне" ("Ці помніш, Ганула, шчаслівы мамэнт?"), дарэчы, акампануючы сабе на мемарыяльным інструменце — антыкварным раялі, упрыгожанні вялікага гасцінага пакоя Коласаўскага дома. Варта ўзгадаць, што Ігар Міхайлавіч з'яўляецца аўтарам музыкі песні "Мой родны кут". А яшчэ маэстра Лучанок — зямляк Якуба Коласа па Пухаўшчыне: народны паэт стала адпачываў у маляўнічых наваколлях Мар'інай Горкі.

Пад гранне І. Лучанка спяваў заслужаны артыст рэспублікі Іван Краснадубскі. Паэт Уладзімір Карызна прачытаў верш, прысвечаны адной з любімых жанчын беларускай літаратурнай класікі — чароўнай паненцы Ядвісі, гераіні рамана Якуба Коласа "На ростанях", а ў яе вобразе і віноўніцам урачыстасці — "Берагіням".

Вольга Іпатава прачытала шчымлівую гісторыю простай навагрудскай жанчыны, якая ў апошнія хвіліны жыцця папрасіла мужа пачытаць "Новую зямлю". Радкі з паэмы былі для хворай апошняй малітвай...

Народны вакальны калектыў "Берагіня" віншавалі намеснік міністра культуры Валерый Гедройц, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь Мікалай Дубовік, дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская, супрацоўнікі фірмы "Каўчэг", творчая інтэлігенцыя Стаўбцоўскага раёна.

**Г. ЗАЙЦАВА**

# Выстава ў Валожыне

Мінск заўжды быў буйным асяродкам мастацкага жыцця. Але сёння з ім спрабуюць сапернічаць іншыя гарады і мястэчкі Беларусі, якія зараз актывізуюць сваё культурнае адраджэнне. Валожын — горад з традыцыямі. І проста так ціха-мірна існаваць непадалёк ад сталіцы (усяго 70 кіламетраў шляху па прамой трасе ў заходнім кірунку) і чакаць, калі "з неба ўпадзе" нешта, не збіраецца. Покуль існуе толькі ў праектах краязнаўчая экспазіцыя ў будынку раённага музея, а ўтульныя і светлыя залы ў неарамантычным стылі вольныя (будынак быў здадзены ва ўжытак у 1920-х гг. у якасці Дома старосты для высокага павятовага чыноўніка часоў польскай акупацыі ў Заходняй Беларусі). Мясцовае кіраўніцтва аддзела культуры вырашыла праводзіць там мастацкія выставы.

Першай выставай стала персанальная экспазіцыя скульптара Валерыя Калясінскага пад назвай "Маёй Валожыншчыне". Рэч у тым, што Валерый мае повязі з гэтай зямлёю, і такім чынам здзейсніў доўгачаканую мару паказаць вынікі сваёй першай творчай сямігодкі пасля завяршэння вучобы ў БДАМ на "малой радзіме". Уражанне ад экспазіцыі, яе адкрыццё было вельмі святочнае. Здаецца, у залах згуртавалася ўся мясцовая моладзь, інтэлігенцыя, госці з Івянца. У гонар такой неардынарнай падзеі свае арыгінальныя вобразныя санеты прачытала маладая паэтка з Валожыншчыны Ядвіга Кужоўнік.

Выстава цікавая і прыкметная па многіх паказчыках. Яна ахоплівае шмат вобразных задач, як, напрыклад, мастацтва псіхалагічнага партрэта, адлюстраванні гістарычных, метафарычных вобразаў, знаёміць з магчымасцямі фарматворчасці скульптара ў дрэве, бронзе, гіпсе, кераміцы. Мастак актыўна шукае свой стыль у рэчышчы рамантызаванага рэалізму. Яго захапляюць вобразы Стэфана Баторыя, Адама Міцкевіча, Сервантэса, Міндоўга, каралевы Боны і іншыя. Шмат цеплыні ён укладае ў тэму жаночых абліччаў. Дрэва пакуль што для яго найбольш цёплы і прыдатны матэрыял, каб перадаць свае думкі пра тонкую і паэтычную адметнасць нашых беларускіх прыгажунь, маладзенькіх дзяўчынак, жанчын у росквіце. Многае, што прапануе аўтар нават на маленькіх плакетках (помнікі архітэктуры, вобразы нацыянальных герояў), мае характар завершаных кампазіцый для своеасаблівай серыйнай прапаганды беларускай культуры і гісторыі ў музеях, у тым ліку і Валожына.

Выстаўка стала стартавай падзеяй у мастацкім жыцці патэнцыяльнага горада-спадарожніка Мінска, дзе могуць адбывацца шматлікія выстаўкі, пленэры, канферэнцыі з удзелам шырокага кола мастакоў і прадстаўнікоў іншых мастацтваў.

**Яўген ШУНЕЙКА**

*На здымках: на экспазіцыі выставы; работы В. КАЛЯСІНСКАГА: "Каралева Бона"; "Кардынал К. Свёнтак".*







АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Юбілей цэнтра

Дзесяцігадовы юбілей адзначыў Абласны грамадска-культурны цэнтр. За гэты час тут прайшло шмат грамадска-палітычных мерапрыемстваў. Цэнтр з'яўляецца таксама лепшай канцэртнай пляцоўкай Гомеля. Яго зала разлічана на тысячу гледачоў. Тут выступалі "Песняры", "Сябры", балет "Тодас" Алы Духавай, шматлікія зоркі расійскай эстрады, знакамітыя акцёры тэатра і кіно. Добра вядомы цэнтр і сваёй Славянскай бібліятэкай. Ён прымаў удзельнікаў міжнародных фестываляў "Арт-сесія", "Сожскі карагод", "Усе мы родам з дзяцінства". Тут пастаянна наладжваюцца выставы работ знакамітых мастакоў.

З нагоды юбілею адбыліся ўрачыстасці, у тым ліку канцэрт.

## Мастацтва кнігі

У мастацкім аддзеле Абласнога краязнаўчага музея адкрылася выстава "Мастацтва кнігі". Экспазіцыя знаёміць наведвальнікаў з графічнай тэхнікай выданняў, якія выпускаліся на працягу XVI—XX стагоддзяў. На выставе прадстаўлены ўзоры кнігадрукаванага мастацтва рэлігійнага, навуковага, публіцыстычнага зместу з фондаў музея і прыватных калекцый.

## Юныя малююць жыццё

Найбольш таленавітыя навучэнцы мастацкай вучэльні, мастацкіх і сярэдніх школ Гомельшчыны прадставілі свае работы на абласныя конкурсы "Фарбы жыцця" і "Святло будучыні". Пераможцы вызначаліся ў трох узроставых групах: ад 12 да 20 гадоў. У кожнай былі ўстаноўлены па тры прызавыя месцы. Пераможцы атрымалі дыпломы і каштоўныя падарункі. А творы юных мастакоў перададзены ў дар дзіцячым садкам і школам.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Збіраюцца ў гасцёўні паэты

Гасцёўня "Друць" пры Талачынскім гарадскім Доме культуры — літаратурна-мастацкая. Тут збіраюцца мясцовыя паэты, п'юць гарбату, чытаюць і абмяркоўваюць вершы. Яны дзейнічаюць у цесных стасунках з работнікамі цэнтральнай раённай бібліятэкі, ідзе чытачамі. Такія "выхады ў народ" сталі ўжо рэгулярнымі. Нядаўна свае вершы чыталі аматарам паэзіі супрацоўнік мясцовага РАУС Уладзімір Чаплянок, рабочы Яўген Дарафееў. А інжынер Васіль Анішчанка выступіў у ролі барда.

## Палягчэлі сумкі паштальёнаў

Па выніках толькі што праведзенай падпісной кампаніі ўсе вядучыя афіцыйныя выданні краіны пацярпелі ў Талачынскім раёне своеасаблівае фіяска. Напрыклад, са студзеня ў параўнанні з леташнім у сумках мясцовых паштальёнаў газеты "Советская Белоруссия" паменела на 295 асобнікаў, газеты "Белорусская нива" — на 205 і г.д.

Пабяднелі не толькі жыхары нашых дамоў і кватэр, але і мясцовыя ведамствы, працоўныя калектывы, клубы, бібліятэкі, школы. Аб гэтым яскрава сведчыць той факт, што ведамасная падпіска ў раёне знізілася на 900 асобнікаў. І, на вялікі жаль, у тым ліку і на нашы беларускія літаратурна-мастацкія газеты і часопісы.

**Алесь МАЗУР**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Узнагароджаны медалём

Дэкан педагагічнага факультэта Беларускай акадэміі музыкі, што ў Магілёве, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Леанід Іваноў узнагароджаны медалём Францішка Скарыны. Гэтую высокую дзяржаўную ўзнагароду маэстра Іваноў атрымаў за вялікі асабісты ўклад у развіццё беларускага музычнага мастацтва. Ён добра вядомы не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. А аркестр Магілёўскай музычнай вучэльні, якім кіруе Іваноў, — лаўрэат самых шматлікіх і прэстыжных конкурсаў.

Зараз Леанід Іваноў — мастацкі кіраўнік і дырыжор аркестра народных інструментаў абласной філармоніі. Сярод музыкантаў аркестра і студэнты педагагічнага факультэта Акадэміі музыкі.

## Дом рамёстваў — асяродак культуры

Горацкі Дом рамёстваў адзначыў дзесяцігадовы юбілей. Ініцыятарам адкрыцця першай у рэспубліцы ўстановы такога кшталту сталі Сяргей і Наталля Квачы — сапраўдныя энтузіясты беларускай самабытнай культуры. Зараз вакол Дома рамёстваў гуртуюцца 26 самадзейных мастакоў, работы якіх з пастаянным поспехам экспануюцца на раённых, абласных і рэспубліканскіх выставах. Вернісажы збіраюць шматлікіх гледачоў не толькі з Магілёўшчыны, але і з замежжа.

Некалькі гадоў таму пры Горацкім Доме рамёстваў была створана дзіцячая мастацкая школа. Зараз яна — самастойная навучальная ўстанова. Тут знаныя майстры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва навучаюць дзяцей саломапляценню, разьбе па дрэве, ганчарнай справе, вышыванню. Зараз у школе больш за 400 навучэнцаў. Многія з іх становяцца пасля студэнтамі вышэйшых мастацкіх навучальных устаноў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## "Нябесны знак"

Выйшаў літаратурна-мастацкі альманах "Нябесны знак". Рэдагуе яго паэтка Марыя Шаўчонак. А свет пабачыў альманах дзякуючы шчыраванням выдавецкага аддзела Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта. Заснавальнікам выдання сталі савет грамадскага аб'яднання "Нябесны знак" і радыё "Гродна". У шасці раздзелах альманаха — паэтычныя і празаічныя творы. Сярод аўтараў — Бараніслаў Ермашкевіч, Людміла Кебіч, Ларыса Прудкагляд, Мікола Спорнік, Таццяна Жучкова і іншыя вядомыя на Гродзеншчыне літаратары.

**НАШ КАР.**

*МІНШЧЫНА...*

## Купалаўскія санеты

У межах святкавання 120-гадовага юбілею Янкі Купалы Літаратурны музей Купалы рыхтуе выданне кнігі санетаў песняра на васьмі мовах свету: беларускай, украінскай, польскай, рускай, англійскай, французскай, нямецкай і іспанскай.

У серыі "Беларускі кнігазбор" мяркуецца выдаць да дня народзінаў паэта першы з двух тамоў ягонага выбранага. Апрача гэтага, у планах узгаданага Літаратурнага музея — выданне кнігі песняра на англійскай мове.

**НАШ КАР.**

# *У працяг антычнай традыцыі*

**Да адкрыцця на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў 1995 годзе кафедры класічнай філалогіі ў нашай краіне спецыялісты падобнага профілю не рыхтаваліся. Летась адбыўся першы выпуск філолагаў-класікаў, якія з поспехам пачалі працаваць у розных ВНУ Беларусі. Адначасова з выкладаннем дысцыплін класічнай філалогіі супрацоўнікі кафедры пад кіраўніцтвам свайго загадчыка, няўрымслівага навукоўца-лаціністa дацэнта Галіны Шаўчэнкі актыўна ўключыліся ў навукова-даследчую працу, сведчаннем чаму стаўся ўжо чацвёрты выпуск тэматычнага зборніка "Studia philologica".**

**У выдадзеным пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Грэцыя ў Беларусі навуковым зборніку асвятляюцца самыя розныя пытанні грэка-лацінскай праблематыкі ў галіне лінгвістыкі і літаратуразнаўства. Значная частка апублікаваных даследаванняў тычыцца асаблівасцей функцыянавання лацінамоўнай літаратуры на Беларусі, выкарыстання грэчаскай мовы і перакладаў з яе на беларускую мову. Так, выкладчык Вольга Зарэмба даследуе грэчаскую філалагічную традыцыю ў кніжнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, праблемы арфаграфічнай адаптацыі грэка-лацінскіх каранёвых тэрмінаэлементаў у беларускай медыцынскай тэрміналогіі аналізуе дацэнт Андрэй Цісык. У чацвёртым выпуску ўпершыню апублікаваны пераклад з лацінскай мовы "Элегіі да Багародзіцы Панны Марыі аб утаймаванні чумы" Яна Вісліцкага. Перакладчыца — дацэнт Жанна Некрашэвіч — апублікавала яшчэ і літаратуразнаўчы аналіз лацінамоўных паэтычных малітваў да Багародзіцы, што належаць пяру Паўла Русіна з Кросна, Яна Вісліцкага, Міколы Гусоўскага (урывак з паэмы "Песня пра зубра"). У літаратуразнаўчым раздзеле чытача зацікавяць і даследаванні аспіранта Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАН Аляксея Мацэвіла "Неалацінскія паэтычныя творы Андрэя Рымшы: светапоглядны аспект", ст. выкладчыка Ірыны Шкурдзюк "Тэма падзвіжніцтва і служэння хрысціянству ў паэме Міколы Гусоўскага "Аб жыцці і дзеяннях святога Гіяцынта", дацэнта Галіны Сінілы "Рэцэпцыя элінскай метрыкі і строфікі ў нямецкай паэзіі XVIII стагоддзя", дацэнта Нарынэ Саркісавай "Антычны фактар у станаўленні філасофскай сістэмы поглядаў Сэмуэля Тэйлара Колрыджа".**

**Навуковы рэдактар зборніка Галіна Шаўчэнка ў прадмове адзначае, што тут змешчаны працы як настаўнікаў, так і вучняў, што з'яўляецца працягам традыцый антычнай Акадэміі і Лікея. Гэта дае добрую надзею і ўпэўненасць у тым, што не за гарамі новыя сустрэчы з арыгінальнымі даследаваннямі, увядзенне ў навуковы ўжытак новых арыгінальных тэкстаў старажытнасці, далучэнне да класічнай спадчыны маладых навукоўцаў.**

**Мікалай ПРЫГОДЗІЧ**

ВАРУНКІ

# Беззаконне

На працягу апошняга паўгоддзя грамадскім арганізацыям не-не, ды і перапынялі фінансаванне. Але праз месяц-два зноў яго аднаўлялі.

І толькі на Саюз пісьменнікаў, які амаль ушчэнт "распранулі" яшчэ да 1998 года, забраўшы і дом літаратара, і былую паліклініку, цяпер нібыта "забыліся". Забыліся і на абяцанне аддаць Дом. М. Дзямчук перайшоў на іншую працу, а з ім, як кажуць, і "канцы ў ваду". Маўляў, ведаць не ведаем, што ён там абяцаў.

Але — ні пра няспраўджанае абяцанне, ні пра тое, чаму, можа, у пэўных колах вырашыўшы, як выказалася пісьменніца Святлана Алексіевіч, "ціха задушыць пад коўдрай" Саюз беларускіх пісьменнікаў, ніхто ні слова нідзе не казаў усе гэтыя доўгія месяцы. Проста паўсюль панавала "кругавое маўчанне". Не адказвалі ні кіраўніцтва Адміністрацыі, ні прэм'ер-міністр, ні Палата прадстаўнікоў, ні Дзяржкантроль, куды звярнуліся змучаныя нашы супрацоўнікі (прыйшоў толькі прыведзены ў мінулым артыкуле ліст міністра фінансаў і абсалютна ні аб чым ліст ягонага намесніка, і то ў канцы года). А між тым, нават калі было і вырашана перапыніць фінансавыя адносіны паміж дзяржавай і фінансуемай ёю з 1934 года арганізацыяй, то трэба было б хаця зрабіць гэта па законе — з уведамленнем за два месяцы, з выплатай запазычанасці і кампенсацыі, і г.д. Ёсць на гэта адпаведныя загады, адпаведныя дэкрэты.

Ды нават паводле законаў нават і на лісты трэба адказваць, панове!!!

Беззаконне панавала ў гэтай сітуацыі так яўна, так нахабна, што ажно дух захоплівала — калі так абыходзяцца з пісьменнікамі, то якой праўды можа дасягнуць так званы просты чалавек?!

Кожны дзень, ідучы ў былы наш дом, трэба было пераадольваць псіхалагічны бар'ер — невыносна было бачыць чакальна-трывожныя вочы жанчын, якія працавалі ў Саюзе пісьменнікаў па 30-40 гадоў і не маглі проста так, без аніякіх тлумачэнняў з боку ўлады, пакінуць сваё месца працы. І што можна было запісаць у працоўныя кніжкі? Што яны звольненыя ў сувязі са скасаваннем фінансавання, гэта значыць скасаваннем і самой арганізацыі? І такім чынам сваімі рукамі, на аснове такога вось ліста міністра фінансаў, як бы скасаваць сам саюз?

Міжволі ўзгадвалася, як яшчэ ў 1999 годзе І. Ціцянкоў і яго ведамства рабілі на цяперашняе кіраўніцтва першы вялікі "накат" па высяленні і з тых некалькіх пакояў, якія нам літасціва пакінулі новыя гаспадары (ужываю словы з лексікі "братвы" невыпадкова — калі апісваць сітуацыю, дык адэкватнымі ёй словамі!)

Тады ў мой кабінет дзень за днём урываліся нейкія людзі (памятаю, аднаго разу якраз сядзеў у мяне намеснік старшыні таварыства "Дзецям Чарнобыля" з Ляймэна Вольфганг Мюлер) і, ні слова не кажучы, пачыналі абмяраць сцены, а на просьбу даць тлумачэнне нахабна адказвалі: "Вы тут у н а с СНІП парушаеце!" Бедалага замежнік, не знаёмы з рэаліямі тутэйшага пісьменніцкага жыцця, ніяк не мог даўмецца, што да чаго. Разам з ім і я тады даведалася, што СНІП — гэта нейкія правілы, па якіх на маю душу павінна прыходзіцца ўсяго шэсць метраў, а ў кабінеце іх болей...

Тады першая пры новых гаспадарах дырэктарка "Аб'екта Фрунзе,5", як стаў называцца Дом літаратара, "неуставной бранью" ганяла па доме паэтаў-пачаткоўцаў (аднойчы яна паспрабавала сваё мастацтва нават на баранесе фон Врангель, дырэктарцы Інстытута Гётэ), а другога дырэктара, які, добра "паддаўшы" на сваім рабочым месцы, упарта станавіўся ў канцы рабочага дня на карачкі, аднойчы назаўсёды вынеслі адсюль самі ахоўнікі. Трэці дырэктар з асаблівай асалодай спачуваў нашай зарплаце, прыгаворваючы, што на яе можна накарміць толькі ягонага ката... Я цытавала яму Г. Спенсера: "Высокі дух задавальняецца малым", і ён пакрыўджана сыходзіў, відаць, не выканаўшы нейкай патаемнай , дадзенай яму задачы...

Неўзабаве знік і ён, а намесніка аднаго з дырэктараў, паводле ягоных слоў, увогуле звольнілі за тое, што ён надта спачуваў пісьменнікам — напрыклад, не хаваў перад вечарынай М. Багдановіча мікрафоны. І не рабіў іншых дробных паскудстваў, якія ад яго патрабаваліся, каб "пісакі" спаўна адчулі радасць жыцця ў гэткай "камуналцы".

Вярнуць дом абяцалі яшчэ У. Някляеву. Я ішла працаваць ягоным намеснікам пад гэтае абяцанне. Але паступова рабілася відавочным, што нічога падобнага нават не прадбачыцца. А пасля ягонага ад'езду ўвогуле заставалася толькі крок за крокам спрабаваць хаця б утаймоўваць living рознага роду і гатунку "халуёў", будуючы на пакінутых нам руінах нейкае падабенства пісьменніцкага жыцця, і колькі ж на адно гэта пайшло сіл і намаганняў!

Спачатку ТБМ, а за імі і мы спаўна звездалі, як бягуць яны, халуі, паперадзе гаспадароў, зазіраючы ў вочы і абдзіраючы кіпцюры аб ахвяры, на якія тыя яшчэ толькі нацэльваюцца....

За гэтыя гады было нямала сітуацый, у якіх нават знаёмыя людзі паўставалі зусім іншымі, нібы ішоў працэс расчалавечвання ці нейкага ўнутранага распаясвання ўсяго, што злосна тлела ўнутры, а цяпер разгаралася з нейкай злавеснай сілай. Прывяду яшчэ толькі адзін прыклад.

Якраз тады, калі ахоўнікі ў камуфляжы (нібыта быў захоплены які ваенны аб'ект, а не Саюз пісьменнікаў) высвятлялі ў аднаго народнага пісьменніка, хто ён такі, каб прайсці без пропуска ў гэты дом, а на вечарыне другога народнага тушылі святло, не даючы яму нават падпісаць аўтографы — у адной з газет з'явіўся вялікі артыкул аб пісьменніцкай арганізацыі. А ў ім абвінавачванні ў тым, што, маўляў, кіраўніцтва СБП заелася да таго, што прымае калег-пісьменнікаў толькі падчас прыёмных гадзін. А аўтар — не толькі сам пісьменнік, але і даволі вялікі чыноўнік.

Тэлефаную. Пытаюся, ці даўно быў ён у саюзе і дзе гэта бачыў. "Не быў і не бачыў, — адказвае, — але ж калегі расказалі". Імёны калегаў, вядома, не называюцца. Патрабую, каб прыслалі карэспандэнта гэтай газеты да нас. Ледзь дабіліся, але прыйшоў (як аказалася, харошы журналіст). І тыя ж ахоўнікі (самыя першыя ў найноўшай гісторыі СБП і самыя "бдительные", ледзь не ўсе былыя палкоўнікі) яго так уразілі сваімі паводзінамі і каментарамі наконт "охраняемых объектов", што ён быў у шоку і пасля напісаў артыкул пра пісьменніцкія планы. Але прапусцілі ў ягоным матэрыяле з вострых момантаў толькі некалькі больш-менш нейтральных сказаў. А вялікі негатыўны артыкул пра нібыта вяльможнае жыццё апарату СБП застаўся практычна неабвергнутым, і калісьці па ім будуць меркаваць нашчадкі аб рэаліях нашага жыцця. Дай Божа, каб прачыталі яны і іншыя праўдзівыя радкі! Напісаныя не халуямі...

"Халуі" — увогуле асобная гаворка. Зазначу толькі, што калі ў іхняй ролі выступалі пісьменнікі, якія паперадзе вядомага нашага "ведамства праўды" беглі на радыё, каб выплеснуць на шматмільённую аўдыторыю бруд на сваіх калег — гэта, як кажуць, ужо "канец свету". Пройдзе час — а ім жа глядзець у вочы апляваным! Вярнуліся ж некалі з бяздонных сталінскіх канцлагераў ахвяры, былі паднятыя з архіваў прозвішчы даносчыкаў — і калі прыйшла за імі Смерць, жахліва-пуста было ў зале, дзе стаялі іхнія труны! І гэта — толькі пачатак н я с л а в ы, якая пайшла і яшчэ пойдзе за іхнімі імёнамі і ў іншае жыццё...

Таму што, прызнаём мы гэта ці не, душа ўсё ж бессмяротная. І гэта яна супраціўляецца, калі мы ў імя тых ці іншых матэрыяльных даброт гвалцім яе — подласцю, прыстасавальніцтвам да беззаконня, маўклівасцю і нават страхам. Страхам не за жыццё, не! Гэта яшчэ можна зразумець. Але калі перасцярога замыкае вусны і душу з-за таго, што не дастанецца — прэмія, грошы, усмешка начальства; помста ўсё роўна прыходзіць. Бывае, самая нечаканая. Нядаўна ўвачавідкі пабачыла, як не атрымаў адзін з калег так патрэбнага яму тытула. Некалі схібіў, не заступіўся пры нагодзе, бо пабаяўся. Але гісторыя помнілася, і ўжо сённяшнія размеркавальнікі не захацелі падтрымаць таго, хто не стаў заступацца за сябра, ды яшчэ і шмат гадоў таму, калі сама маладосць, яшчэ не забруджаная кампрамісамі, павінна была б быць зарукай добрых, шчырых парыванняў душы і сумлення...

Так, гэтыя месяцы былі надта цяжкія. Асабліва даймалі тэлефонныя званкі. Правакацыйныя. Прытоена-радасныя. Добразычлівыя. Асабліва настойліва раілі нарэшце кінуць усё : і гэтыя паперы, якія, мабыць, нават не чытаюць, і цяжкі воз праблем (адна наша "Ісла ч" вымотвае ўсе сілы, бо з кожным годам старэе і зношваецца), і , як выходзіць, марную надзею на тое, што вось нарэшце мы пачнём гаварыць аб якасці літаратуры, аб новых творах. Але — як кінеш людзей, якія табе паверылі? Якія галасавалі за захаванне свайго творчага саюза? І, нарэшце, супрацоўнікаў, якія, гледзячы на цябе, штодзень прыходзяць на працу (на якую некаторыя прыходзяць ужо па 30-40 гадоў). Яны гатовыя былі б і сысці. Але — вось так, нібыта яны ў нечым вінаватыя, нібыта не яны стараліся ўсе гэтыя гады дапамагчы пісьменнікам у іхніх і творчых, і жыццёвых клопатах?!

У кожнай былі свае праблемы: у бухгалтара памерла нованароджаная ўнучка, дачцэ патрэбныя лекі і вітаміны. У літкансультанта дачку паклалі ў бальніцу з падазрэннем на анкалогію. У бібліятэкаркі дома ляжаў спаралізаваны муж. Ішоў месяц за месяцам, і круг замыкаўся — яшчэ адзін ліст, яшчэ адно пустое абяцанне разабрацца (вуснае, зразумела).

Няўжо і праўда — "Удушэнне пад коўдрай"?!

А калі так — трэба супраціўляцца.

За ўвесь гэты час сышло ўсяго два чалавекі. Астатнія — засталіся, бо разумеюць, як Саюз пісьменнікаў сёння неабходны нашаму ледзь не дашчэнту здэнацыяналізаванаму, агрэсіўнаму, зняверанаму грамадству. Ён "трымае" выданні, дзе яшчэ могуць друкавацца пісьменнікі і атрымліваць хаця і малыя, ды ўсё ж нейкія ганарары. Ён выхоўвае маладую змену, дае ёй тыя маральныя арыенціры, якімі заўсёды была моцная наша літаратура. Нарэшце, гэта прыстанішча, дзе яшчэ можа пісьменнік правесці свой творчы вечар і сабраць сяброў на юбілей...

І таму прыходзілі ў саюз і рабілі штодзённую справу—кансультавалі, рыхтавалі вечары і канферэнцыі, матэрыялы для прыёму ў СБП, дапамагалі і пісьменнікам, і пачаткоўцам (апошнія, асабліва былыя афіцэры, дасылаюць ці прыносяць звычайна тоўстыя сшыткі, а то і раманы. І паспрабуй даць фармальны адказ — закідаюць лістамі ў тую ж Адміністрацыю!)

... Чаму я пішу пра гэта так падрабязна? Таму што мы ўсе павінны нарэшце ўсвядоміць, што прайшоў час літаратурных генералаў-начальнікаў, супраць якіх можна было і крыкнуць нешта ў друку (але тады асабліва не крычалі!), на якіх пры нагодзе можна было і "тупнуць нагой" некаторым паважаным аксакалам (якія ўсё яшчэ ніяк не развітаюцца з прывычкай тупаць гэтай самай нагой), і што ніхто, апроч нас саміх, не паклапоціцца пра патрэбы пісьменніка і не нагадае пра іх тым, хто вызначае культурную палітыку дзяржавы.

Больш таго — не раз даводзілася чуць ад чыноўнікаў самага рознага рангу выказванні накшталт таго, што пісьменнікі — гэта дармаеды, якія ледзь не абіраюць краіну. Гэта — тыя, хто альбо зусім не чытае нічога з мастацкай літаратуры, альбо тыя, хто, як кажуць, "на дух не пераносіць" нічога беларускага. На жаль, мы ўсе жывём у гэтай рэчаіснасці, і многія — у стане "ўнутранай эміграцыі", бо надта балюча ўспрымаць кожны дзень, месяц за месяцам, год за годам тое, што адбываецца з нашай мовай, з людзьмі, якія гатовыя былі яшчэ дзесяць гадоў таму сэрцам прыняць перамены, павесці дзяцей і ўнукаў у беларускія школы, а сёння ўжо не вераць у беларускае Адраджэнне.

Калі страцяць гэтую надзею і беларускія пісьменнікі, калі не асвецяць, асветляць і ўрэшце не перапаляць сэрцамі чорны покрыў, так званую негатыўную аўру над нашым народам, над намі ўсімі можа адбыцца непапраўнае.

Якасць нашай энергіі (а без яе мы не пісалі б), яркасць нашага душэўнага і духоўнага агню (без чаго немагчыма стварыць ніводнага вартаснага мастацкага твора, а яны ж ствараюцца!) — усё гэта, сабранае, сканцэнтраванае разам, можа зрабіць многае. Наша сіла — не ў крыку ( хаця як не крычаць ад балючых рэалій забыцця!) — а ўсё-ткі ў сіле Духу. У сіле процістаяння Злу. У сіле Праўды.

Супраць гвалту .

Супраць беззаконня.

**Вольга ІПАТАВА,**
**старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Ратуйма беларускамоўную меншыню!

*Леанід ЛЫЧ*

## РАЗ’ЯДНАЛІСЯ Ў ГАЛОЎНЫМ

Сёння, бадай, не знойдзеш чалавека крытычнага розуму, які не прызнаваў бы, што **сучасны беларускі народ складаецца з рускамоўнай і беларускамоўнай частак**, прычым з выразнай колькаснай перавагай першай над другой. Я не стану спыняцца на прычынах такой ненармальнай і небяспечнай з’явы. Яны ўжо грунтоўна асветлены ў нашым друку. Мэта мая — давесці чытачу ўсю пагрозу такога моўнага падзелу беларускага народа, выказаць некаторыя ўласныя меркаванні па пераадоленні нацыянальнай бяды, з якою ў Еўропе праз разумную, узважаную дзяржаўную нацыянальную палітыку змаглі паспяхова справіцца.

Быў час, што ў цывілізаваным свеце нават не прызнавалі людзей за народ, калі яны не пільнаваліся ўласнага слова. Пераканаўча пра гэта пісаў яшчэ ў 90-я гады XVIII стагоддзя прагрэсіўны польскі культурны дзеяч і публіцыст Францішак Язерскі: “Нацыя — гэта супнасць людзей, **якія маюць адзіную мову** (падкрэслена мною. — **Л. Л.**), адзіныя норавы і звычаі і адзінае і агульнае для ўсіх грамадзян заканадаўства”.

З XVI стагоддзя найбольш заможныя і палітычна ўплывовыя, адукаваныя колы родную мову сталі падмяняць польскай, а з другой чвэрці XIX стагоддзя гэтыя ж колы сталі інтэнсіўна пераарыентоўвацца на рускую мову. Працяглы час такія моўныя звіхі не ставілі пад пытанне само існаванне беларусаў як самабытнага народа, хаця і моцна шкодзілі іх этнічнаму адзінству. А не ставілі таму, што абсалютная бальшыня насельніцтва (праўда, пераважна вясковага), малаадукаванага і нізкай палітычнай, нацыянальнай актыўнасці, усё ж карысталася беларускай мовай. Але з 60—70-х гадоў XX стагоддзя, калі ў вёсцы сталі ладзіць баль рускамоўныя прадстаўнікі мясцовай улады і спецыялісты, калі і гэты тып населеных пунктаў узялі ў палон рускамоўныя сродкі масавай інфармацыі, кіно, спакваля распачалася русіфікацыя беларускамоўных агульнаадукацыйных школ, асабліва сярэдніх.

У выніку збегу такіх неспрыяльных акалічнасцяў здарылася тое, што і павінна было здарыцца. Народ падзяліўся на беларуска- і рускамоўную часткі, паміж якімі не існавала і не існуе акрэсленай мяжы. Прыкметы гэтай крайне непажаданай з’явы для этнакультурнага развіцця беларусаў сталі відавочнымі ўжо даўно, толькі не было каму, асабліва з боку палітычна ўплывовых людзей, з усёй сур’ёзнасцю паставіцца да дадзенай праблемы. Таму і адбылася страшэнная карозія моўнага патэнцыялу беларускай зямлі, у чым часта міжвольна брала ўдзел і яе карэннае жыхарства, да канца не разумеючы, якія гэта можа мець негатыўныя вынікі.

У сусветнай цывілізацыі даўно прынята лічыць, што самай сур’ёзнай і цяжка вылечнай хваробай таго ці іншага народа з’яўляецца яго моўная раз’яднанасць, і асабліва, калі яна ўжо адбылася на карысць чужой мовы. Таму невыпадкова сапраўдная дзяржава, прагрэсіўныя колы грамадства вельмі пільна сочаць і пры неабходнасці робяць тэрміновыя,эфектыўныя захады па надзейным захаванні моўнага адзінства сваёй тытульнай нацыі. Ды гэта не азначае, што ў дадзеных краінах пануе дыскрымінацыя ўсіх астатніх моў, у тым ліку і тых, што маюць сусветнае значэнне. Іх толькі зусім абачліва не ўзводзяць у статус афіцыйных, дзяржаўных, затое ўсяляк садзейнічаюць пранікненню ў педагагічны працэс сваіх навучальных устаноў усіх тыпаў. Адсюль і ў народаў з ярка выяўленым моўным адзінствам (рускіх, палякаў, немцаў, французаў, японцаў...) значная частка людзей валодае замежнымі мовамі і ў пэўных канкрэтных сітуацыях карыстаецца імі.

Беларусы з-за буйнамаштабных разбурэнняў іх нацыянальна-моўнага патэнцыялу (што асабліва характэрна для палітыкаў і ў найбольшай ступені для высокіх чыноўнікаў адміністрацыйна-гаспадарчага апарату, інтэлігенцыі) выпалі з абоймы пералічаных вышэй аднамоўных народаў. З пэўнага часу названыя сацыяльныя групы беларускага грамадства праявілі ў вышэйшай ступені негатыўнае стаўленне да роднай мовы, што не магло не паспрыяць далейшаму распаўсюджванню рускай мовы і ў самых шматлікіх нізавых пластах грамадства, таму ёсць неабходнасць больш падрабязна спыніцца на разглядзе шляхоў вырашэння ключавых пытанняў гэтай архіактуальнай праблемы.

## РАДЫКАЛЬНА МЯНЯЦЬ АРЫЕНЦІРЫ

Родная мова — самы дакладны і аб’ектыўны індыкатар духоўнасці кожнага народа. Таму нават самыя нязначныя прыкметы разбурэння нацыянальна-моўнага патэнцыялу народа ўмомант выклікаюць магутную ахоўную рэакцыю ў дзяржавы, калі яна трывала стаіць на абароне яго карэнных інтарэсаў.

За нашымі сучаснымі ўладнымі структурамі мы такой высакароднай якасці не назіраем, бо ў іх на першым плане стаіць забеспячэнне прыярытэтаў за рускай мовай, каб гэтым самым яшчэ раз пацвердзіць Расіі сваё цвёрдае жаданне жыць з ёю ў адной дзяржаве незалежна ад таго, якім палітычным статусам тут будзе карыстацца Беларусь, якія будуць забяспечвацца ўмовы для прыстойнага і самабытнага этнакультурнага развіцця. А для народа, які не на словах, а на справе дбае пра сваё этнічнае выратаванне, ой як патрэбныя палітыкі з багатым нацыянальным гартам, бо акурат у іх руках знаходзяцца магутныя ўладныя рычагі для паступовага, паслядоўнага пераўтварэння моўнай меншыні грамадства ў яго моўную бальшыню.

Да ліку такіх рычагоў у першую чаргу належыць аднесці народную адукацыю, якая ў нас ужо сотні гадоў (і зараз!) працуе не на карысць беларушчыне. Менавіта найбольш адукацыі мы абавязаны сфармаваннем беларускамоўнай меншыні ў складзе ўсіх катэгорый беларускага грамадства. Адносна крайне нікчэмнага месца беларускай меншыні ў краіне цяпер і ў бліжэйшай перспектыве можна атрымаць даволі поўнае ўяўленне з таго, што ў 2000/2001 гг. з усёй колькасці вучняў агульнаадукацыйных школ у беларускамоўных навучалася толькі 20%, рускамоўных — 51%, змешаных (беларуска-рускамоўных) — 29%. Змест навучальна-выхаваўчага працэсу апошніх непараўнальна лепш улічвае рускі, чым беларускі фактар, таму і іх больш правільна аднесці да рускіх школ. Такім чынам, беларускамоўныя агульнаадукацыйныя школы наведвала толькі 5-я частка (!) вучняў. У такой сітуацыі гаварыць пра магчымасць існавання беларускамоўнай меншыні ў перспектыве аніяк не даводзіцца. Яе будучыня выклікае яшчэ большую трывогу, калі ўлічыць, што з гэтай 5-й часткі школьнікаў толькі мізэрны працэнт зможа атрымаць адукацыю на беларускай мове ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах і пасля заканчэння іх папоўніць моцна парадзелыя апошнім часам шэрагі нацыянальнай інтэлігенцыі, г. зн. таго пласта грамадства, ад якога найбольш за ўсё залежыць лёс любога народа. Праўда, не выключана, што беларускамоўную меншыню зможа папоўніць самапасам і хтосьці з тых, хто з рускай мовай прайшоў праз выбраны ім тып навучальных устаноў і стаў спецыялістам. Аднак такіх беларускамоўных волатаў-самасеек будзе вельмі і вельмі мала, і праблема захавання беларускамоўнай меншыні па-ранейшаму ніколькі не страціць сваёй вастрыні.

Я цвёрда перакананы, што вырашыць дадзеную праблему мы зможам толькі ў тым выпадку, калі ў нас будзе існаваць значна большая колькасць беларускамоўных школ (асабліва ў гарадах), калі на беларускую мову пераведуць педагагічны працэс дзесяткаў устаноў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы. Ці магчыма гэта зараз? Не сумняваюся, калі б толькі якія-небудзь нацыянальна-патрыятычныя колы паспрабавалі павярнуць народную адукацыю да беларускага інтарэсу, іх будзе чакаць катэгарычнае папярэджанне: “Кіруйцеся Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Законам Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь ”Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”, у якіх ёсць спецыяльны артыкул аб надзяленні грамадзян нашай краіны правам выбіраць мову навучання сваіх дзяцей. І калі б справа дайшла да вырашэння гэтага пытання толькі такім шляхам, агромністая рускамоўная бальшыня грамадзян пры, несумненна, самай вялікай падтрымцы з боку дзяржавы, узятай ёю на службу інтэлігенцыі, проста ў лужу загнала б малалікую беларускамоўную меншыню і захавала б моўны статус-кво сярэдняй і вышэйшай школы.

## БЕЛАРУСАМ У РОДНАЙ МОВЕ — ЮРЫДЫЧНЫ СТАТУС НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МЕНШЫНІ

Словам, куды ні кінь — усюды клін. Без кардынальных перамен у арганізацыі жыцця беларускамоўнай меншыні ніякі цуд не выратуе яе ад канчатковага вымірання, ад поўнага знікнення ўсялякіх этнакультурных адметнасцяў карэннага насельніцтва, бясследнага растварэння яго ў рускамоўным асяроддзі. Таму трэба настойліва дамагацца ад дзяржавы афіцыйнага надання сваім магіканам — беларускамоўным грамадзянам — прававога статуса нацыянальнай меншыні. Ведаю, як сорамна і цяжка пайсці на такое, прычым не толькі перад шчыра адданымі беларускім культурна-моўным традыцыям людзьмі, але і перад славянскай супольнасцю народаў, усёй сусветнай цывілізацыяй за тое, што русіфікатарскай палітыкай амаль дарэшты “змазалі” такі самабытны этнас нашай планеты. Аднак іншага і, магчыма, на сёння адзіна рэальнага спосабу развязвання гэтай актуальнай праблемы я не бачу.

Пасля юрыдычнага афармлення статуса беларускамоўнай нацыянальнай меншыні яна будзе мець усе законныя правы патрабаваць ад дзяржаўных органаў заснавання неабходнай для яе колькасці нацыянальных дзіцячых садоў, агульнаадукацыйных школ, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, тэатральна-мастацкіх асяродкаў, газет і часопісаў, выдзялення ў афіцыйных электронных сродках масавай інфармацыі спецыяльнага часу для арганізацыі беларускамоўных перадач, у якіх не было б месца страшэнна абрыдлым непісьменным беларуска-рускамоўным дыялогам, беларуска-рускамоўнай трасянцы.

Трэба сказаць, што сусветная практыка, асабліва апошніх дзесяцігоддзяў, мае даволі значныя дасягненні ў вырашэнні праблем рэгулявання жыцця нацыянальных мяншыняў, дзякуючы чаму для цывілізацыі канчаткова не страчаны многія індзейскія плямёны Заходняга паўшар’я, нязначныя па колькасці абарыгены Азіі, Афрыкі, Аўстраліі. Таму вялікі грэх не выкарыстаць іх пазітыўнага вопыту. Наш намер не даць памерці беларускай меншыні павінен быць мацней за ўсялякую русіфікацыю нават і ва ўмовах, калі гэтай антынацыянальнай практыкай займаюцца надзеленыя ўсёй паўнатой улады дзяржаўныя структуры, усемагутныя афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, адарваная ад прыродных каранёў сістэма народнай адукацыі.

Зусім не падзяляю пазіцыю тых, хто ўжо апусціў рукі, выйшаў з шэрагаў змаганцаў за нацыянальныя ідэалы толькі таму, што на моўную галгофу вывела беларускі народ сама дзяржава, барацьба з якой разглядаецца нібыта як супрацьпраўны акт. Такое не раз здаралася ў сусветнай практыцы. І там, дзе нацыянальна-самасвядомая інтэлігенцыя не збіралася падавацца ў глыбокае падполле, вяла ўласцівымі для яе метадамі і сродкамі барацьбу, у тым ліку і ў асяроддзі самой палітычнай эліты, за адраджэнне ўласных культурна-моўных традыцый, вынікі атрымліваліся не такія ўжо і нікчэмныя, як сёння ў нас, беларусаў. Зразумела, весці такую барацьбу архіцяжка і надзвычай складана, бо ўсім сваім нутром палітычная і інтэлектуальная эліта Беларусі да такой ступені ўжылася ў рускую культурна-моўную стыхію, што яна ўжо проста арганічна не ўспрымае нічога беларускага. У час арганізацыі публічных буйнамаштабных акцый нацыянальна-культурніцкага характару хто-небудзь з высокіх дзяржаўных асобаў дзеля супакаення носьбітаў беларускай культуры мог запэўніваць, што ўлады не забудуцца на родную мову. Колькі разоў гучалі гэтыя абяцанні? А на справе многія ж з далёка не шараговых у палітычным жыцці асобаў да такой ступені адракліся ад нацыянальных духоўных каштоўнасцяў, што невядома, з дапамогай якой сілы можна было б вярнуць гэтых людзей да ўласных каранёў, роднай мовы і культуры.

Дзеля захавання нацыянальнага генафонду мы мусім збудаваць надзейную цытадэль накшталт легендарнага Ноевага каўчэга. Бясспрэчна, адплываць на ім ад родных берагоў беларускамоўны асяродак не стане. Ён павінен не на чужыне, а на землях любай Бацькаўшчыны з беларускамоўнай меншыні пераўтварыцца ў беларускамоўную бальшыню. А такое здзейсніцца толькі тады, калі беларускамоўную частку беларускага народа надзеляць на яе гістарычнай тэрыторыі прававым статусам нацыянальнай меншыні.

У адпаведнасці з сучаснымі міжнароднымі нарматыўнымі актамі нацыянальныя мяншыні карыстаюцца даволі шырокім колам правоў. Тым больш яны павінны быць гарантаваны ў самым поўным аб’ёме беларускамоўнай меншыні, паколькі яна жыве на ўласнай зямлі і непадзельна ні з кім увасабляе сабой яе спрадвечныя нацыянальныя, культурна-моўныя традыцыі, захоўвае за Беларуссю права называцца сваім імем. З самых прынцыпова важных міжнародных нарматыўных актаў, што рэгулююць розныя пытанні жыцця нацыянальных мяншыняў, хацелася б у першую чаргу назваць Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах 1966 г. У яго 27-м артыкуле запісана: “У тых краінах, дзе існуюць этнічныя, рэлігійныя і моўныя мяншыні, асобам, што належаць да такіх мяншыняў, не можа быць адмоўлена ў праве сумесна з іншымі сябрамі той жа групы карыстацца сваёй культурай... роднай мовай”. Сучасныя дзяржаўныя ўлады Беларусі не могуць не ўлічваць і слушнага каментару палажэнняў да Растлумачальнага даклада да рамачнай канвенцыі аб абароне нацыянальных мяншыняў ад 18 красавіка 1995 г. (арт. 10): “Прызнанне правоў кожнай асобы, якая належыць да нацыянальнай меншыні, беспярэшкодна карыстацца сваёй роднай мовай асабліва важна. Выкарыстанне мовы меншыні з’яўляецца адным з асноўных сродкаў, з дапамогай якіх гэтыя асобы могуць адстаяць і захаваць сваю самабытнасць”. Дый сам артыкул 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь: “...Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання” пры наяўнасці ў беларускамоўнай меншыні прававога статуса нацыянальнай меншыні адкрываў бы шырокую магчымасць для здзяйснення сваіх ідэалаў у розных сферах духоўнай творчасці. Пры адсутнасці такога статуса беларускамоўная меншыня з-за дэструктыўных дзеянняў рускамоўнай бальшыні і самой дзяржавы ніколі не правядзе ў жыццё такія ідэалы.

## ПАЛІТЫЧНАЕ ЎЛАДКАВАННЕ

Акрамя забеспячэння на высокім дзяржаўным узроўні ўсіх неабходных умоў для беспярашкоднага, дынамічнага нацыянальнага, культурна-моўнага развіцця беларускамоўнай меншыні, трэба на такім жа ўзроўні паклапаціцца і пра наданне ёй пэўных палітычных правоў, бо вопыт апошніх гадоў яскрава сведчыць, што рускамоўная бальшыня краіны зусім не ўлічвае інтарэсы яе беларускамоўнай меншыні. Яна зусім не прадстаўлена, а калі і прадстаўлена, дык толькі адзінкамі, у Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь, у рэспубліканскіх адміністрацыйна-гаспадарчых апаратах, Вярхоўным судзе, Рэспубліканскай пракуратуры. Ніхто не паклапаціўся выдзеліць хоць некалькі мандатаў і даць слова прадстаўнікам беларускамоўнай меншыні на Другім усебеларускім сходзе. І ўсё гэта таму, што ў нас юрыдычна не афармлена беларускамоўная нацыянальная меншыня, а калі не афармлена, значыцца, яна не карыстаецца ніякімі палітычнымі і іншымі правамі, пры рэалізацыі якіх можна было б максімальна ўлічыць яе інтарэсы.

Трэба мяняць становішча. Ёсць неабходнасць стварэння беларускамоўных па форме і змесце асяродкаў на ўсіх ключавых участках дзяржаўных органаў улады і кіравання, каб ужо ў бліжэйшы час павысіць ролю беларускага нацыянальнага фактару ў іх практычнай дзейнасці. Страшэнны сваімі памерамі моўны развал беларускай нацыі не можа і надалей заставацца па-за межамі глыбокага і сур’ёзнага асэнсавання шляхоў надзейнага выйсця з такога становішча, што непадуладна высілкам толькі якога-небудзь аднаго аўтара. Трэба прызнаць, што падобнага небяспечнага моўнага разлому беларускага народа, як сёння, айчынная гісторыя яшчэ не ведала. Таму яшчэ ніколі не было такой вострай патрэбы стацыянарнага лячэння моўнай хваробы беларускага народа, як сёння. Лячыць яе трэба не ў якой-небудзь закінутай у сельскай мясцовасці, спарахнелай бальніцы, а ў самых сучасных медыцынскіх установах, добра забяспечаных вопытнымі кадрамі, лекамі. Пакінуць народ сам-насам у такой сітуацыі — значыцца міжвольна быць саўдзельнікам яго этнакультурнага вымірання.

торыя з найбольш характэрных метафар, каб атрымаць уяўленне пра яе паэтычную мову.

«Апошні *позірк верасня* ўтрапёны, // І доўгая *дарога, прыткі птах*» («І хлынуў дзень забытымі радкамі...»): «А мой край, дзе неба стыне, /// І з *вачэй ліецца бэз*» («Я на трэці дзень устану...»). «Ноч дапала да зямлі, // *Сон ідзе самотным мніхам*» («Стыне люты за акном...»). «На *кульгавым стале, // Пакінула восень сваё рыззё*» («Восень»). «*Не зголджайся, восень, на хаўтуры...*» «*Дождж вяроўкі мокрыя ўе*» («Трыпціх»). «*Бабуля мая — яблыня. //* Кожны яблык з болем выношвала....» («Яблыня»). «*Прайдзі скрозь мяне навылет. // Балючы, важкі год*», «*Зашывала неба мех, зацыроўвала. // Тонкай ніткай, прамянём зацалоўвала. //* Шоўкам шыла, як магла, *ночкай-паннаю...*» «*Млын стары — жабрак пахілы, //* Дзе былыя спрыт і моц...» «Тут так адзінока, // Што *чорны грак сукенку рупна шые, //* Каб у дарогу паляцець са мной», «*Птушкай чорнай вугаль ночы // Зачапіўся за вакно...*», «*Неба ўздыхнула — дождж нарадзіла // З дзіравага меха дзіцё...*» («Дожджык»).

*Ёсць у Іны Снарскай* вершы-метафары. Як, напрыклад, вобраз надвячоркавага сутоння ў традыцыі неабарока:

***Дзень свяціўся бярозамі-свечкамі,***
***Дзень каціўся басанож з гары,***
***Капялюш свой згубіў каля рэчкі ён***
***І пакінуў кашулю ў бары.***

*«Надвячорак»*

Метафарычнае бачанне свету — прыкмета мастацкага таленту. Паводле аўтара першай «Паэтыкі» Арыстоцеля для паэта асабліва важна быць майстрам метафар, бо гэтаму нельга навучыцца ад іншых. Тут — прыроджаны дар.

Так аднаўляецца паэтычнае бачанне свету. Як быццам бы вяртанне да светатварэння, калі Бог на шосты дзень блаславіў чалавека на жыццё і даручыў яму назваць усё створанае. Метафарызм, сімволіка і архетыпічнасць — не толькі пачатак культуры, але і яе складанае квітненне, пранікнёнае эстэтычнае ўглядванне ў чалавека, прыроду, космас, у сваю ўласную душу. Класічны фальклор не ёсць прымітыўнае мастацтва, як здавалася павярхоўнаму асветніцтву. У народнай мастацкай культуры ёсць безліч узораў эстэтычнага пераўтварэння міфалогіі, штодзённага і святочнага побыту у паэтычныя сюжэты, метафары і сімвалы.

Вершы Іны Снарскай твораца на мяжы этнічнай традыцыі і мадэрнісцкай экспрэсіўнай ды імажыніснкай паэтыкі. Апрача ўжо адзначаных міфалагемаў архетыпічнага сэнсу (арфізм, Пекла, Чысцец, Рай і інш.), у яе паэтычны кантэкст увайшлі і набылі новы неадназначны (амбівалентны) сэнс ваўкалак, ведьмы, Зніч, Лель, Лясун, Мара, Пярун, Сварог, Змей, Змяіны цар, вырай, шматлікія добрыя, злыя і амбівалентныя персанажы беларускай народнай міфалогіі. У шмат чым асабіста непаўторны міфа-паэтычны сэнс набылі традыцыйныя народныя міфалагемы, сімвалічна абазначаная аб'ектам прыроды і культуры.

Паэтычныя кампазіцыі і сімвалы звычайна грунтуюцца на кантрастах руху (міфалагемы ветру, птушкі, завеі, навальніцы) і начнога сузірання. Ёсць тут любасць да начных стварэнняў, у полі зроку сімвалічнай паэзіі — носьбітаў патаемных ведаў:

***Боль мой, буры лясны сыч,***
***Ты мне вочы ў ночы пазыч,***
***Разбуры мой здрадлівы сон***
***І крылом захіні, і крысом...***

*«Буры сыч»*

Лепшыя паэтычныя творы Іны — не для лёгкага чытання. Тут сустрэліся нацыянальны традыцыяналізм, фальклaрызм і мадэрнісцкая элітарная эстэтыка, паэзія наблізілася да музыкі, выяўленчага і арнаментальнага мастацтва. За рэальным, пластычна наглядным тэкстам скрываюцца падтэкставыя, цэласныя, неадназначныя, драматычныя, нярэдкі трагічныя трывогі душы беларускай эліты, той духоўнай «закваскі», якая сёння ўсё яшчэ застаецца гарантам нацыянальнага адраджэння. Ідэальнае і зямное (чалавечае, занадта чалавечае, паводле Ф. Ніцшэ), духоўнае і цялеснае сёння, як ніколі раней, аказаліся ў трагічнай дысгармоніі. Гэты стан драматычнага разлому быцця выяўляецца праз спалучэнне вобразаў людскіх, птушыных і звярыных. Як, напрыклад, у вершы «Ваўкалак»: «Я звяроў вучыла размаўляць, // Я чытала ім лісты і кніжкі, — // Ды глядзелі вочы немаўлят // Праз мяне ў сусвет, лясны і блізкі...»

Гэтая паэзія хрысціянская. Без павярхоўнай рэлігійнасці, якая сёння стала модай у літаратуры сярэдняга гатунку. Тайна хрысціянскай душы ў трагічным перажыванні незваротнасці часу, катастрафічнасці быцця, напружанасці маральнай памяці, адчуванні сваёй адказнасці за жыццё і за ўсё, што адбываецца ў нашым блізкім і далёкім свеце. Хрысціянскае мастацтва спавядальнае і, як вынік, шчырае, праўдзівае. Драматычныя матывы ёсць у большасці твораў спадарыні Іны. У асобных вершах яны сфакусіраваны экспрэсіўнымі вобразамі. Невыпадкова адзін з іх яна паўтарае ў абедзвюх кніжках. Прывяду тут першы, на мой погляд, больш дакладны варыянт:

***І ластаўка сляпая прыляціць,***
***Калі сплыве зара на падваконне,***
***Парэжа крылы аб лязо прадоння,***
***Як у вачэй тваіх папросіць піць.***

***І кінецца ў вокны, як у рукі,***
***І паспрабуе зрушыць цішыню,***
***Ды ашалелы звон разбітых гукаў***
***Пасыплецца з крывёю на зямлю.***

***І пацякуць па бездарожжы ночы,***
***Гады мае павіснуць на плячах,***
***Як рызманы ў жудасным бязвоччы,***
***Як рэха анямелае ў вяках.***

***І, можа, ты мяне тады пачуеш,***
***За плечы возьмеш, схіліш галаву,***
***Мяне, чужую, да грудзей прытуліш,***
***Сівую, пакладзеш мяне ў траву.***

А цяпер паспрабуем адказаць на пытанне: як нараджаюцца паэты ў сучаснай Беларусі? У той жа Полаччыне, або маёй Гарадзеншчыне, моцна зрусіфікаваных на функцыянальных узроўнях грамадскага жыцця, асветы, сістэмы інфармацыі і кіравання? Як стаў магчымым феномен палачанкі Іны Снарскай? Закончыла яна рускую сярэднюю школу, вучылася ў Полацкім політэхнічным інстытуце, атрымала там чырвоны дыплом выдатніка па спецыяльнасці інжынер-будаўнік. Працавала ў будаўнічых арганізацыях. Праўда, мама яе была настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Полацку. Але ж дома і на працы панавала псеўда-руская «трасянка». З чатырнаццаці гадоў супрацоўнічала ў мясцовай рускамоўнай прэсе. Першы верш па-беларуску напісала ў 1987 годзе, праз год пасля таго, як далучылася да Полацкага літаратурнага аб'яднання «Крыніца». Апошнія дзесяць гадоў разам з мужам і сынком жыве на Украіне, працуе на тэлебачанні Палтавы і па сумяшчальніцтве ў Палтаўскім педагагічным універсітэце. Там і напісала свае вершы-замовы і лірычныя споведзі. Удзельнічае ў працы Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Наязджае ў Беларусь, каб аднавіць паэтычны кантэкст жыцця, пабыць у асяроддзі сяброў. Каб у родным краі дапасці да крыніцы жывой вады. Пра гэта — заключны верш «Лясной панны», які па тэхнічнай памылцы не змясціўся ў кніжку:

***Ляціце, вятры, ляціце,***
***Лавіце, мой дом, лавіце,***
***Я буду ценем на плячах мяцелі...***

Нашую мову захавала ў душы ад сваіх родных вясковых бабуляў. Па бацькоўскім родзе яе бабуля — беларуская шляхцянка. Апошнім часам даследчыкі генеалогіі зацікавіліся радаводам Снарскіх, які па дакументах пачынаецца ў сярэдзіне XVI ст. Станіслаў Снарскі быў маршалкам Полацкага ваяводства. Другі Станіслаў з гэтага роду быў каталіцкім тэолагам Дамініканскага ордэна. Удзельнікі паўстання 1863 года Фелікс і Эдвард-Ян пакараны ваенным судом з ведамства вешальніка Мураўёва. Урэшце, дзед паэткі ляснік Восіп Снарскі рэпрэсіраваны бальшавікамі, не вярнуўся з расійскай катаргі.

Вось такі лёс беларускай шляхты: яна гадавала не толькі пачынальнікаў беларускай літаратуры, але і яе сучасных творцаў. Сімвалічны вобраз сваёй лірычнай гераіні, роднае Беларусі, і, верагодна, сённяшняй беларускай паэткі Іна намалявала ў вершы "Чароўная чапля":

***Чароўная чапля на белай назе***
***У ноч пераходзіць***
***вандроўніцай змрочнай.***
***Супыніцца час у сляпучай вадзе —***
***Адчайнаю песняю,***
***ветрам паўночным.***

***І птушка крылы пакладзе на кусты,***
***Сунічную спёку і чорныя вочы, —***
***Чатыры дарогі натоляць масты,***
***Якія крывавяць на золку сірочым.***

Трэцяя паэтычная кніга Іны Снарскай "Лясная панна" заслугоўвае асобнай увагі, бо аўтар тут як быццам апынулася на ростанях. Здаецца, упершыню пачала друкаваць вольныя і белыя вершы ў цыклах "Песні крышталёвых зорак", "Прошча". Тут ёсць спакуса: пісаць так, як гэта ў свой час удавалася Максіму Танку, а цяпер Алесю Разанаву. Ёсць удалыя творы і ў спадарыні Іны: "Вежа", "Восень", "Яблыня", "Змайструю сабе драбіну", "Папрасіла ў птушкі вочы". Іншыя вольныя вершы пакуль што, як кажуць, першыя зацемкі, сюжэты і матывы для наступнай ювелірнай апрацоўкі.

## АЛЬФА-БЭТА

*Атрымаўшы прапанову ўзнавіць крыху прызабытую лімаўскую рубрыку "Альфа-бэта" (прэзентацыя творчасці пачынаючых літаратараў), натрапіў на тры непазбежныя пытанні "хто?", "чаму?", "што?": каго прадстаўляць чытачам "ЛіМа", пераважна прафесіяналам? Чаму менавіта яго? Што — канкрэтна?*

*Тры пытанні, калі разабрацца, адсылаюць да аднаго паняцця — літаратурнага пакалення. Бо кожнае літаратурнае пакаленне мае сваю прычыннасць і сваю, так бы мовіць, самадастатковасць, працей кажучы, пакідае* ***свой*** *след.*

*Узнаўляючы рубрыку, спадзяюся, што публікацыі ў ёй адкажуць на тры пытанні датычна самага маладога літаратурнага пакалення. Пакалення, між іншым, не самага шчаслівага. Паказальная ў гэтым сэнсе гісторыя часопіса "Першацвет", які з кастрычніка 1992 года да сакавіка мінулага рэальна выконваў ролю ягонага друкаванага органа. Гісторыя з "анхэпі-эндам".*

*Аднак жа, да справы. Не ведаю, ці можна будзе зрабіць пэўныя высновы адносна пакалення першацветаўцаў па адной ужо сённяшняй падборцы — Ганны Галавіной (карэннай мінчанкі, 1981 года нараджэння, студэнткі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта), і тым не менш.*

*Калі я запытаў у Ганны адносна ейных куміраў у беларускай ці сусветнай літаратуры, адказ быў такі: "У мяне няма куміраў, я сама для сябе кумір". Праўда, пасля Ганна ўсё-ткі назвала адно імя — Франсуа Віёна.*

*Калі я пацікавіўся яе меркаваннем адносна падзелу паэзіі на мужчынскую і жаночую, пачуў у адказ наступнае: "Ёсць жа мужчыны і жанчыны, і ад гэтага не ўцячэш... А наогул паэзія ёсць добрая і не вельмі..."*

*І нарэшце, калі я паспрабаваў справакаваць яе: "Зараз табе толькі 20. Праз гадоў гэтак пяць-дзесяць, як адчуваеш, будуць вершы?.." — зноў-такі "абламаўся": "Не задумваюся пра гэта. Пішу, бо прыемна..."*

*Зрэшты, задаваў я пытанні Ганне яшчэ не чытаўшы ейных прапанаваных у "Альфа-бэту" вершаў. Пэўна ж, калі б да гэтага прачытаў, у прыватнасці, такое: "Не пойдзе снег, пакуль стрыптыз танцую Чарнілам на апаленай паперы", — і не назаляўся б ёй са сваімі распытамі.*

**Мікола ВІЧ**

## Ганна ГАЛАВІНА

●

***За сотняй вяртанняў з болю,***
***Снегу, сляпых надзей,***
***Даведаюся, што помню***
***Толькі сутонне вей.***
***За невыносным грузам***
***Таго, што заўжды было,***
***Адчую я, што баюся***
***Толькі маўчання твайго.***
***На тонкай нябачнай грані***
***Між сёння і заўтра — крок.***
***Калісьці травою стане***
***Цела маіх дарог.***
***Штомомант сцвярджаць "даволі"***
***Стамлюся ізноў, але,***
***Рвануўшыся ў пошуках волі,***
***Убачу адно цябе.***

●

***Не пойдзе снег, калі апошняй хваляй***
***Дрыжыць пад пальцамі***
***мядзянае паветра,***
***Пакуль на дне завулкаў дрэвы паляць***
***Прытоеныя казачныя лямпы.***
***Што я жадаю? Менш за ўсё спакою.***
***Прасіць і верыць — для святых занятак,***
***А нам не засталося за гульнёю:***
***Ні мне — цярпення, ні табе — спагады.***
***За пройгрыш, атрымай маё дыханне,***
***Успышку горычы — за адчуванне меры.***
***Не пойдзе снег, пакуль стрыптыз танцую***
***Чарнілам на апаленай паперы.***

●

***Адракаюся. Усё былое***
***Пераходжана, як зямля,***
***Пералётнае дзікае слова,***
***Перасоленая цішыня.***
***Лісце пераапранута. Восень***
***Перасычана (гарачынёй),***
***Толькі ты памылкова застаўся***
***Так і непералюбленым мной.***

●

***У садах вечар трушчыць суфле,***
***А па небе гуляюць вярблюды.***
***"Нас рамантыка больш не кране,***
***Часам зручна не верыць у цуды", —***
***Шэпча так чаравік і плыве,***
***Дзьмухаўцамі прараслы паўсюды,***
***Ў акіян і шнуркамі грабе.***

●

***Казачнік, самотны гном — гэта дом.***
***Тонкая і лёгкая, мяккая,***
***як мышка, — лыжка.***
***Бяздонны, халодны, маўклівы***
***і мудры — кубак***
***брудны.***
***Крэмава-белая, пыхлівая***
***трошкі — хлебная крошка.***
***Зялёны гумавы глобус — аўтобус.***
***Ў ім кампосцер жаданняў руды — ты.***

●

***Толькі тонкая постаць сляпога дажджу***
***Нас сустрэне на вуліцы, мокрай і соннай,***
***Каб употай правесці праз тую мяжу,***
***Мураваную з кожнага боку па-свойму.***
***Тэлефона маўчанне ці водбліскі шкла,***
***Або холад адключаных батарэяў***
***Падштурхнулі на пошукі кроплі цяпла,***
***Ад сумненняў і памяці, што адагрэе.***
***Да вакзальных агнёў не вярнуцца назад.***
***Я не буду затрымліваць***
***стомленасць ранку.***
***Постаць горкіх дажджоў***
***застанецца стократ***
***Даражэйшай за ружы***
***паветраных замкаў.***

●

***Адкуль цеплыня***
***Ў гэтых вачах і далонях?***
***Яе там не можа быць.***
***Ні сёння, ні заўтра, ніколі.***
***Не можа быць сну,***
***Шматкроп'я ў сказе з крокаў.***
***Ні горычы палыну,***
***Ні веры расчыненых вокнаў.***
***Не можа быць дабрыні,***
***Літасці і павагі***
***Там, дзе пануе шал***
***Сляпой, неспатоленай смагі.***





**ЧАСАПІС**

# *“Художественная культура Витебска...”*

**Пра Віцебск, як пра адзін з найбольш старажытных беларускіх гарадоў, напісана шмат. Пры гэтым закраналіся розныя аспекты жыцця і станаўлення горада, не абміналіся і культурныя. Аднак гаворка звычайна тычылася толькі пэўных перыядаў. Працы, якая б закранала вялікі прамежак часу, не было. Цяпер гэты прабел ліквідаваны: выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі выпусціла кнігу Аркадзя і Юрыя Русецкіх “Художественная культура Витебска с древности до 1917 года”.**

**Аркадзь Віктаравіч даўно зарэкамендаваў сябе ўважлівым, аб’ектыўным і патрабавальным даследчыкам сучаснага літаратурнага працэсу, аб чым, у прыватнасці, засведчыла яго манаграфія “Уладзімір Караткевіч: праз гісторыю ў сучаснасць”, якая вытрымала два выданні. Гэткі ж лёс напаткаў і кнігу “Дзень за днём”, што ўяўляе сабой народны каляндар-месяцаслоў, у якім гаворка ідзе пра кожны дзень года. Згадваецца, якое**




**свята прыпадае, прыводзяцца абрады, што трэба выконваць, прадказваецца надвор’е. Акрамя таго, у першым раздзеле змешчаны выслоўі пра кожную пару года. А вось Ю. Русецкі знаходзіцца на пачатку даследчыцкага шляху. Сумесная ж праца іх дазваляе ўсебакова, шматгранна, глыбока спасцігнуць шматвяковую гісторыю мастацкага развіцця Віцебска, яшчэ раз пераканацца, наколькі таленавіты беларускі народ і як шмат зрабілі на беларускай зямлі дзеля яе росквіту прадстаўнікі іншых народаў. Напісана кніга ў форме гісторыка-мастацкага нарыса. Аўтары прытрымліваюцца храналагічнага прынцыпу ў падачы матэрыялу, пачынаючы з глыбокай старажытнасці, калі і ўзнік Віцебск. Пры гэтым удакладняюць неабходнасць гэтага: “...экскурс у гісторыю Віцебска зроблены цалкам усвядомлена: нельга вывучаць мастацкую культуру горада ці народа, засяроджваючыся толькі на аналізе іх непасрэдных дасягненняў. Надзвычай важна разуменне цэласнасці сацыякультурнай сітуацыі, разгорнутай у часе і прасторы, у якой складваліся, развіваліся і ўзаемадзейнічалі “высокае” прафесіянальнае мастацтва і народная творчасць, фарміруючы асобае сэнсавае адзінства ў кожным перыядзе развіцця мастацкай культуры. Гэтак, як нельга не ўлічваць тую духоўную спадчыну, што атрымалі віцябчане ад сваіх продкаў, якія валодалі значнымі дасягненнямі ў матэрыяльнай і мастацкай культуры”.**

**Асноўная ж гаворка, непасрэдна звязаная з прадметам даследавання, вядзецца ў трох главах, кожная з якіх сама па сабе ўяўляе як бы міні-манаграфію, надзіва багатую фактычным матэрыялам, што ўводзіцца ва ўжытак, важкую абагульненнямі і высновамі, цікавую назіраннямі. Аўтары, зразумела, улічылі вопыт папярэднікаў (у канцы прыводзіцца вялікі спіс выкарыстанай літаратуры), але гэта не значыць, што кніга — свайго роду выбранае з апублікаванага. Падобны грэх, як правіла, назіраецца за тымі даследчыкамі, якія не прывыклі мысліць самастойна. У А. і Ю. Русецкіх падыход іншага плана. Не адмаўляецца тое, што не выклікае сумнення. Дапаўняюцца распрацоўкі, доказнасць якіх неабходна ўзмацніць. А за ўсім — уласныя развагі.**

**А яшчэ, што вельмі важна ў даследчыцкіх працах, разлічаных на масавага чытача, імкненне быць як мага больш даходлівым. Гэта адчуваецца ўжо ў главе “Развіццё мастацкай культуры ў Віцебску ў IX—XIII стагоддзях”. Асобныя раздзелы — “Пачатак горадабудаўніцтва”, “Па лесвіцы майстэрства. Развіццё рамёстваў”, “Архітэктурныя брыльянты” і іншыя, быццам прыступкі, ступаючы па якіх, набліжаешся да запаветнага. Шмат дае і глава “Мастацкая культура Віцебска ў познім сярэднявеччы”. І амаль палову кнігі займае глава “Мастацкая культура Віцебска ў канцы XVIII — пачатку XX стагоддзя”. Трэба адзначыць, што кніга багата ілюстравана, атрымалася выданне альбомнага тыпу.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



# ХАРАКТАР АРМЕНІІ

## ПАЭМА

Я ведаў: калі буду пісаць пра Арменію, буду пісаць пра Цябе, бо Ты — слоўная рэчыўнасць армянскага дыхання.

Праз Цябе я глядзеў на Твой народ...

Твой народ не ўмеў лёгка жыць, бо не квапіўся на чужое; ваюючы, не нападаў, — абараняўся; Бога насіў у сэрцы, а грошы ў кішэні, а не наадварот; плаціў крывёю за тое, каб чытаць Евангелле; вынайшаў свой алфавіт, бо чужыя літары драпалі паднябенне; у землятрусах губляў гістарычныя сталіцы, але не губляў памяць; у войнах страчваў землі і страціў мора, аднак жа не страчваў і не страціў душу; збор вінаграду заўсёды пачынаў толькі тады, калі на Малым Арарыце раставаў снег...

І дзе б ні жыў, — дзяцей сваіх вучыў с в а ё й мове і, часта здаралася, называў іх Айастан[1]...

У Тваім народзе магчымае сышлося з немагчымым.

У Табе таксама, а найперш, — азіяцкая поўня ператваралася ў еўрапейскі маладзік, а Усход рабіўся Захадам.

Я чытаў гісторыю Твайго роднага Карса, каб зразумець той казачны ўсходне-заходні корань, які жывіў Тваё літаратурнае імя.

Ты казаў пра Карс: маўляў, места было заснавана халдзеямі, а, магчыма, урартамі, але (жартаўліва ўдакладняў!) з гэтага нічога асаблівага не вынікае, бо ад таго халдзейскага ці ўрарцкага паселішча не засталося амаль ніякага знаку.

Адсюль, пэўна ж, і развагі Тваіх сённяшніх вучняў: “Так, геаграфічна мы далекавата ад Еўропы і зусім блізка ад Азіі. Так, мы – Усход, але мы той Усход, якога ўжо няма...”

Мяне ж, дарэчы, і гэта цікавіла: Твой край – Еўропа ці Азія?!

І што такое Арменія, калі казаць адным сказам?..

“Па духу мы еўрапейцы, а па сваім побыце пераважна ўсё ж людзі Усходу...” – тлумачыла гаспадыня паэтычных абставін Асмік Пагасян, частуючы мяне на беразе Аракса залацістым кіяхом.

“Арменія – гэта Еўропа з рысамі Азіі...” – кажучы так, пісьменнік Давыд Мурадзян усміхаўся ўсмешкаю садоўніка, у садзе якога толькі салодкія яблыкі і ніколі не патухае рубін ягонае цыгарэты.

“Мы – і Азія, і Еўропа. Карані ў нас усходнія, але крона заходняя...” – паважна прамаўляў дыпламат Давыд Матэвасьян, дорачы мне далікатнае гранатавае дрэўца.

“Што такое Арменія, калі казаць адным сказам?!. Мусіць, пацалунак нашае азбукі з вінаграднаю лазою...” – гаварыў, нібыта спяваў, празаік Лявон Хечаян, адчыняючы перада мною браму ў Цахкадзор.

Мае сябры адказвалі старанна і прыгожа, а мне ў іхняй старраннасці і стылёвай зграбнасці чулася новае адценне Тваёй жартаўлівасці, якую ў сваім цудоўным рамане “Краіна Наіры” Ты прымусіў выказаць Марукэ Драстамацяна: “Адна справа мы, другая – еўрапейцы... Вось так...”

І словы гэтыя прагучалі як эпіграф да ўсяго таго, што я наогул пачуў у Ерэване і ў пісьменніцкім доме ў Цахкадзоры:

“... Тут адным сказам не скажаш, бо нам, армянам, уласцівы бясконцыя супярэчнасці... Мы не ведаем залатое сярэдзіны, — калі нешта робім добра, то гэта выходзіць вельмі добра, а калі робім кепска, то гэта зусім кепска... Мы – або вялікія патрыёты, або звычайныя абыякаўцы...

Наша геніяльная гістарычная спадчына суіснуе з нашым жа заняпадам... Шмат хто наогул не ўсведамляе сябе спадчыннікам роднае культуры... Самакрытычнасць нам не дае спакою і таму нам утульна існаваць у “армянскіх” творах Брусава, Белага, Мандэльштама, Гросмана, Бітава і няўтульна жыць у праўдзе сваіх кніг... Мы – людзі празмерных пачуццяў, часам разгубленыя, часам няўпэўненыя і ўсё яшчэ шукаем сябе...”

Гэта ж, мусіць, пайшло ад Грыгора Нарэкацы – бязлітасна казаць пра сябе.

Аднак такая здагадка мяне не супакоіла.

Я прыехаў з гістарычна-расцярушанае прасторы і мне было дзіўна, нават неяк ніякавата чуць такое.

Ці не самы старажытны люд у свеце не ведае залатое сярэдзіны і ўсё яшчэ шукае сябе?!

Нацыя, сэнсава адметная ад іншых нацый, можа быць абыякавай да сваёй зямлі і можа быць “па-беларуску” разгубленай?!

Народ, якога так і не прывучылі да ярма асіміляцыі, — народ няўпэўнены і нерашучы?!

Усяму гэтаму я не даваў веры, а проста замаркочана здзіўляўся і слухаў далей, пакуль не прагучала: “Арменія – трывога зямлі, якую мы не можам зразумець...”

Гэта была сутнасна Твая думка, і ўсё раней пачутае апасродкавана адкрылася мне праз гэтую думку ў сваім сапраўдным сэнсе: так смела пра сябе і свой народ, у шмат разоў перабольшваючы свае недахопы, могуць казаць толькі царскія дзеці.

Дзеці рабоў не здатныя на такую шчырасць.

Царскія дзеці гавораць так шчыра, бо ўмеюць думаць...

Зайздроснае мастацтва ўмець думаць, — дадатковае хараство Арменіі.

Я гэта зразумеў, слухаючы ў інстытуце астранамічных даследаванняў сівагаловага астрафізіка, улюбёнага ў паэзію Нарэкацы і падобнага да хрысціянскага падзвіжніка.

Дзірка ў ягоным чорным чаравіку, як прарэха ў хітоне Хрыста, — не змяншала, а якраз узбуйняла маё ўражанне ад таго, што я чуў.

Астрафізік, дарэчы, у тым шаноўным веку, калі ўжо нельга займацца недаўгавечнымі праблемамі; калі набывае вагу і такая драбяза, як пісьменніцкая стомленасць.

Адданы абаронца космасу, ён жыве мараю пра ідэальную шляхетнасць, да якое, на яго думку, магчыма наблізіцца толькі касмічным шляхам.

“...Бо космас, — казаў вучоны, — дае большы, чым можа даць зямля, маштаб думання... Бо толькі космас, якому заўсёды тоесная душа чалавека, можа адказаць на пытанне: адкуль пайшло жыццё?.. Зямля на гэтае пытанне ніколі не адкажа... Космасам нават можна выхоўваць... І наогул, каб людзі дасканала валодалі касмічнаю моваю, то не дапусцілі б таго, што здарылася ў Амерыцы 11 верасня 2001 года...”

Апошняя выснова, да слова сказаць, здалася нейкаю ідэалістычнаю празмернасцю.

Армянам, выходзіць, уласцівы не толькі празмерныя пачуцці, аднак жа й празмерныя выказванні.

Так, уласцівы, — і не толькі ідэалістычныя.

Фрык[2] у сваіх “Скаргах” прамовіў: “Божа, калі мой народ жыве не паводле тваіх законаў, то знішчы яго!”

Роспач паэта зразумелая: Бог забываўся бараніць яго народ, і калі, здавалася, ні ў чым невінаваты народ раптам усё ж сам вінаваты ў сваіх няспынных бедах; калі ягоныя грахі цяжэйшыя за самыя цяжкія камяні, то...

Аднак жа на якую высокую гару адчаю трэба было ўзысці паэту, які пякельны боль прыняць у душу сваю, каб накрэсліць такое!

Узрушыла таксама, нават напалохала залішняя змрочнасць і сучаснага майстра, майго любімага празаіка: “Хутка трэцяя сусветная вайна... Бомбы будуць падаць у цэнтры Ерэвана...”

Сказана было, вядома ж, пад уплывам надаўняга бамбавання амерыканцамі Кабула, аднак жа для мяне бамбаванне Ерэвана, — нейкая вышэйшая немагчымасць.

Такога проста не можа быць!

Зрэшты, хто яго ведае.

Здараюцца на зямлі жахлівыя дзівосы.

Невыпадкова ж іншы армянскі пісьменнік у адной са сваіх кніг расказаў пра маладога армяніна з Амерыкі, які (дарэчы, таксама з неверагоднаю празмернасцю) паведаміў журналістам: “Так, мае бацькі армяне, і я таксама па паходжанні армянін. Але гэта апошняе – проста фізіялагічная выпадковасць. Лічу непатрэбным марнаваннем часу тлуміць сабе галаву тым, з якой краіны прыехаў сюды мой бацька і што там адбывалася. Я тут нарадзіўся, і я амерыканец. Калі ж будзе вайна, і мне, лётчыку, загадаюць бамбаваць Ерэван, я тут жа выканаю загад...”

Спадзяюся, гэты заакіянскі патрыёт болей так і не ўзняўся ў неба і па сённяшні дзень выконвае адпаведную сваўму розуму працу, — падмятае звычайным венікам самалётнае поле...

“Вы баіцёся смерці?” – спытаўся я ў сівога астрафізіка, абедзве далоні якога чуйна ляжалі на разгорнутым “Нарэку”[3].

“Не баюся... Смерць – уласцівая Сусвету эвалюцыя... Абавязкова прыйдзе канец Сусвету, канец у тым сэнсе, што Сусвет стане іншы... А ўвогуле, нельга жартаваць з жыццём...”

У Цахкадзоры, у гэтым манастырскім паселішчы і ў гэтым пісьменніцкім доме, у якім, гледзячы то на Твой бронзавы помнік, то ў сшытак, я па памяці занатоўваў пачутае ў астранамічным інстытуце, — льга не проста ўцяміць, не толькі зразумець і метафарычна выкапаць, а нават зрокава адчуць той корань, з якога вырасла Тваё імя.

Спытаюся ў самога сябе: чаму?

І адкажу: ды перш за ўсё таму, што тут, у Цахкадзоры, была ў Цябе апошняя перад арыштам, падобная на труну, ноч...

А т а к і я ночы шмат што гавораць і гавораць праз дзесяцігоддзі; яны пакідаюць на зямлі жалезныя пісьмёны, а ў небе – каменныя сляды.

Толькі трэба ўмець іх прачытаць...

Сюды па Цябе прыйшла смерць.

Менавіта тут выяўна і акрэслена Ты ўбачыў уласную пагібель.

Як мёртвае збожжа, пасыпаліся крышталі смяротнага лёду.

Хто Цябе любіць, той па сённяшні дзень чуе і будзе чуць бязлітасны ледзяны звон.

А Цябе любяць усе, бо Ты пясняр паветра Арменіі...

Невідушчыя пачынаюць бачыць снег Масіса[4], калі згадваюць Твае вершы; старыя маладзеюць, калі ўяўляюць Твой нораў; непрыгожыя прыгажэюць, калі прамаўляюць Тваё імя.

У такіх паэтаў, як Ты, — хараство трагедыі пачынаецца менавіта з імя, бо яно, нібыта прарочая кніга, у якой усё распісана далёка наперад – да самае апошняе зорнае кроплі.

Я спрабую перакласці яго на сваю мову і адчуваю, што не варты гэтага зрабіць.

Свядома блытаю паэтычную і размоўную лексіку, нібыта карцёжнік, тасую разнамасныя словы і ніяк не магу знайсці яму сакавіты і дакладны беларускі адпаведнік...

Неўтаймоўны, неўтаймаваны, нястрымны, няўпынны, кручаны, нарваны, агнёвы, навальнічны, маланкавы, ясменны, шалёны, люты, раз’юшаны, раз’ятраны, утрапёны, неслухмяны, палкі, яры, злы, безразважны, свавольны...

Усё гэта быццам тое і ўсё гэта не тое.

І наогул, мае намаганні марныя, бо ніякага перакладу быць не можа.

Ты ж ператварыў сваё імя ў з’яву нацыянальнага краявіду, і ў гэтым сэнсе армянскае перакладаецца толькі на армянскае, як, дарэчы, беларускае на беларускае...

Стаміўшыся, родная прасодыя адпачывала на Тваіх вуснах; жанчыны, якія Цябе кахалі, знялі персікавую лагоду; венецыянскія галубы вучыліся ў Цябе армянскай мове, і першае слова, якое яны запомнілі, было, напэўна ж, Наіры[5]...

Ты – Характар Арменіі.

Ты – мноства характараў.

Вось некалькі малюнкаў-успамінаў, праз якія я ўбачыў Тваё фізічнае існаванне...

У паселішчы Гарні, у гасцінным доме

тыкін[6] Парандзем размаўляю з яе маладым сынам.

"Саркіс, ты прыгожы".

"Я ведаю".

"А табе дзяўчаты кажуць, што ты прыгожы?"

"Я не хачу, каб яны мне казалі, што я прыгожы! Не трэба мяне хваліць!"

Саркіс адказаў Тваімі вуснамі...

У нямецкім Дортмундзе ў гатэлі абакралі іспанскага паэта.

Лявон Хечаян тут жа прапанаваў засмучанаму іспанцу свае грошы.

У Лявона – Твая шчодрасць...

У Рызе разнамоўны літаратарскі гурт ідзе ў госці, — кветкі ж для гаспадыні дома купляе Давыд Мурадзян.

У Давыда – Твая шляхетнасць...

А вось ужо даўні ўспамін, — у савецкай казарме салдат Дранько-Майсюк пабіўся з салдатам Ашотам Ехтар'янам.

Першы пачынае мірыцца Ашот Ехтар'ян: "Дранько-Майсюк, запішы мой ерэванскі адрас..."

У Ашота – Твая адыходлівасць.

І самае для мяне запамінальнае: у тым жа старавечным паселішчы Гарні раптам слаба сябе адчула турэцкая паэтка Аслі Эрдаган, і ў вачах двух Давыдаў (Мурадзяна і Матэвасьяна) узнік вялікі неспакой за Аслі, — Твой неспакой.

Дарэчы, клопат пра Аслі выяўляўся й па-іншаму...

О, гэты незагойны апёк на армянскім целе ад распаленага дзікунствам асманскага жалеза!

Аднак жа з якою велікадушнаю тактоўнасцю Давыд Мурадзян перапыняў усе гаворкі пра гэтае дзікунства, калі яны пачыналіся ў прысутнасці Аслі.

Мусіць, варта тут сказаць і пра тое, што іншым разам (у недыпламатычных сітуацыях!) такую тактоўнасць даводзіцца ўзбагачаць студэнцкаю дасціпнасцю: "...яны думалі, што нас перамогуць у спрэчцы і таму пачалі з таго, што Арарат, маўляў, на іхняй тэрыторыі, і што мы не павінны выкарыстоўваць Арарат, як сваю нацыянальную сімволіку. А мы ім на гэта сказалі: вы ж намалявалі месяц на сваім сцягу, хоць месяц належыць небу і ўсяму чалавецтву. Тут яны й прымоўклі..."

Як гэта блізка: Арарат і характар.

У глыбіні грэчаскага слова х а р а к т а р, калі даваць гэтае слова ў беларускім напісанні, анаграмна жыве Арарат.

Дык вось, мне здаецца, што я зразумеў, адчуў, што такое армянскі характар; выснова мая ідэалізаваная: гэта, калі амаль усё (і нават непазбыўны боль!) ураўнаважваецца шляхетнасцю; гэта, калі ў паветра не забіраецца паветра...

Ты ўмеў дыхаць, у паветра не забіраючы паветра.

З дзяцінства дыхаў дывановымі ўзорамі Карса, і ўжо тады пэўна прадчуваў, што ў Карсе болей не жыць, што ягоныя муры неўзабаве густа набяруцца роднаю крывёю, і ўсцяж на яшчэ жывых людзей ляжа крывавая сажа.

Як верш, ведаў на памяць ісламскі зварот да хрысціян: "Мы паверылі ў тое, што падаравана нам і падаравана вам. І наш Бог і ваш Бог адзіны, і мы яму аддаём сябе..."

Зварот амаль братні.

Невыпадковая ж яна ў ісламе, — кропля хрысціянства!

Аднак жа кропля гэтая не ратавала, — гінула ў шале чырвоных лямцавых фесак.

І зварот братні не ратаваў таксама, — тануў у хвалях крывых шабляў.

І вось на свае вочы ўбачыўшы Дантавы крэматорый, Ты прагнуў нявіннаму попелу даць жыццё ў змучаным слове.

Ты нешта ведаў больш, чым іншыя, але ж ведаў і тое, што сказаўшы пра гэта, — імя сваё ўбачыш накрэсленым жоўцю на абсідыяне.

Табе снілася: страла з абсідыянавым астрыўцом пацэліла ў Тваё сэрца, аднак жа Ты адразу не памёр, паспеў скласці ў памяці (а першыя радкі нават занатаваў на сваім споднім крывёю!) вершаваную навелу пра цікавага рымляніна Абсідыя, які даў вулканічнаму шклу сваё імя і прывёз гэтае шкло ў Карс, думаючы, што ў Карсе такога дзіва няма...

Свае першыя вершаваныя радкі Ты выклаў гранатавым насеннем на туфе, а свой апошні верш накрэсліў (як у тым сне – крывёю!) на турэмнай тканіне; накрэсліў літарамі святога Месропа Маштоца.

Гэтыя літары жылі ў сэрцы Бога; існавалі на камені, метале, папірусе, пергаменце, дрэве, пальмавым лісці, казінай скуры і, вядома ж, на звычайнай паперы.

І вось, — пачалі жыць і на турэмным адзенні.

Гэтыя літары былі і ёсць з Боскага духа, каменю, металу, дрэва, гранатавага насення і Тваёй крыві...

У турме Ты згадваў раман Пшыбышэўскага "HOMO SAPIENS", — кнігу, якая прымусіла Цябе сказаць самому сабе: "Я – паэт..."

Некалі ўсё Табе падабалася ў ёй, — і ніцшэанскае вар'яцтва, і разбуральная воля, і нястрымная юрлівасць галоўнага героя Эрыка Фалька, і ягоны клопат: "Дома неабходна мець морфій..."

Цябе ўражвала прастора двайнога кахання, што вынікала з рызыкоўнае высновы: "У мяне няма сумлення, таму што сумлення няма ў прыродзе..."

Табе шчасліва запаміналася думка: "...рэўнасць даводзіць да злачынства..."

І сваім акрэсленым жахам палохала труна з непамерлым "нябожчыкам", на якую ў цемры наткнуўся экзальтаваны Эрык Фальк...

Ты знаў: жыццё змяншаецца, а не змяншаецца толькі смерць, і не змяншаецца нічога ў лёсе тых, хто парабкуе ў смерці: той жа трунар Янок[7] заўсёды застаецца на сваім месцы, а калі не робіць труны, то зусім недалёка ад сваёй трунарні прадае каўбасу...

У дзяцінстве Цябе ўразіў нязвыклы малюнак: нейкі стары нёс на галаве жоўтую груваcтую дамавіну; нёс, відаць, некаму, а, можа, й сабе.

Стары гнуўся пад цяжкою ношкаю ў крук, і не было бачна ягонага змучанага твару.

Ты ж не меў сваёй дамавіны – ні жоўтай, ні чорнай, ні лёгкай, ні цяжкой.

Адно была ў Цябе, падобная да яе, апошняя перад арыштам ноч у Цахкадзоры.

"Быць пахаваным трэба на радзіме..." – гэтак шаптаў, пакідаючы сабе парыжскую кветку з труны Камітаса.

Быць пахаваным на радзіме – то-бок, адчуваць, як нябесны атрамант цалуе чорныя вулканічныя пацеркі; успамінаць смак чырвоных ягад сабачае шыпшыны; бачыць, як пад вострымі лёзамі пірамідальных таполяў пасвяцца худыя каровы і маленькае з белаю пысаю агатавае асляне; урэшце, — слухаць рачулку Азат, на камяністых берагах якое знікае прыгнечанасць.

Быць пахаваным на радзіме – цешыцца з таго, што тут застаюцца людзі і што яны моляцца Богу; моляцца скрозь, а найперш у Гехардзе, — у велічным збане храма, што схаваны ў скале і ў нябачным малацэ якога не тоне нябачнае рымскае кап'ё...

Скрозь па краіне людзі яшчэ й гандлююць.

І, як некалі ў Тваім Карсе, гандлююць адначасова ўсім: хлебнік, напрыклад, адпускае не толькі лаваш, але яшчэ й бензін; бакалейнік разам з цукрам і перцам – дровы і венікі; садоўнік не толькі вінаград і гранаты, аднак жа і ўпрыгожанні з абсідыяну; мяняльнік з амерыканскімі далярамі і беларускімі зайчыкамі прапануе карсіканскія гузікі і сыцылійскія панчохі...

А хлопчык пры дарозе прадае галубку.

Ён сын механіка, які нецярпліва чакае аўтаклiентаў ля сваёй несамавітай, відаць па ўсім часовай будкі-майстэрні, скіданай з шыферных аркушаў...

За сваю галубку хлопчык просіць тысячу драмаў.

Дастаю тысячную купюру і бачу на ёй Твой партрэт.

"Ведаеш хто гэта?" – пытаюся ў малога.

"Наш паэт..."

"Прачытай ягоны верш".

Хлопчык чытае, і я слухаю Тваю мову, і вакол мяне ўсё на Тваёй мове, толькі на шыфернай будцы-майстэрні надпісы кірыліцкія.

І як тут не ўспомніць крамніка Абамарша[8], — каб завабіць у сваю краму больш пакупнікоў, Абамарш аднойчы сам сабе сказаў: "Трэба шыльду перарабіць па-руску..."

Я купляю галубку і выпускаю яе, і яна ляціць па-над скалою, якую стагоддзі ўтварылі з туфу, базальту і граніту; ляціць панад цагляна-жоўтаю, што як выпаленая гліна, прастораю, адзіная зялёная пляма на якой – куст гігі, так падобны да нашага ядлоўцу.

Хлопчыкаў бацька, адарваўшыся ад сваёй будкі, падступае да мяне: "Ты такі спакойны. Ты сваё жыццё пражыў спакойна..."

І зычліва ўсміхаецца.

І я згаджаюся – і з тым, што я спакойны, і з тым, што сваё жыццё я ўжо п р а ж ы ў, і хочацца дадаць, што ў жыцці і літаратуры пазбягаў і пазбягаю ўсяго неспакойнага, але люблю яго, бо яно вельмі вабіць...

Гэты механік умее бачыць.

Як і ўмець думаць, умець бачыць – таксама зайздроснае для мяне мастацтва, і яно яшчэ адно дадатковае харaство Арменіі.

А хлопчык, тым часам прачытаўшы верш, зноў цярэбіць мяне, гэтым разам тулячы да грудзей маленькага з чырвонаю плямкаю на патыліцы жураўка.

Бацька смяецца, задаволены камерцыйным талентам сына.

Я купляю і жураўка і чую тую тужлівую песню, меладыйны сэнс якое можна пераказаць хіба што гэтак: імя дакранаецца да міфа, міф робіцца музыкаю, музыка выказвае боль...

Ці даляціць жураў да радзімы, да той зямлі, дзе мараль неўмiручая, бо яна не ад чалавека, — ад Хрыста...

На ветраным узвышшы, на адным з адгор'яў Тэгеніса мы дыхалі кастрычніцкаю духмянасцю, і Лявон Хечаян апавядаў пра нядаўнюю вайну, на якую пайшоў добраахвотнікам.

Па сваёй волі пайсці на вайну, — гэта Твой учынак; у 1915 годзе без ніякага прымусу Ты ўзяў зброю, каб роднае зрабіць назаўсёды родным.

Лявон расказваў, як даводзілася адно паляўнічымі стрэльбамі бараніць свае дамы; як, галодны, ён аднойчы з'еў чарапаху; як самаю магутнаю зброяю ў іхняй валанцёрскай сябрыне быў японскі трактар, перароблены ў танк.

Казаў і пра палонных: хоць бракавала харчу, але заўсёды знаходзілі чым іх накарміць, а пасля адпускалі, бо ведалі: перамагае той, хто адпускае палонных накормленымі, і хто ваюе не за тэрыторыю, а за свае дамы.

Так (свядома ці падсвядома) выконваўся запавет Давыда Сасунцы: не забіваць пераможаных, а ўсё зрабіць, каб яны вярнуліся дамоў; такі ж быў, дарэчы, запавет і генерала Андраніка[9]...

Гэтая вайна скончылася няпэўным зацішшам, а тая, Твая вайна – рэвалюцыяй.

Радок за радком, страфа за страфою, старонка за старонкай, раздзел за раздзелам, урэшце, твор за творам, — Ты складаў паэмы пра Леніна, ставіў помнік чырвонаму цару, які ашчаслівіў свет папяровым багаццем волі.

І вось у нашы дні лес ленінскіх помнікаў ператвараўся ў ерэванскі крыж.

Народжаны з крыжам у душы, Ты не зганіў бы гэтае пераўтварэнне, бо самае каштоўнае ў Тваіх камуністычных паэмах, —адсутнасць застыгласці.

З вышыні рэвалюцыйнае рыторыкі бачыў набліжэнне сваёй пагібелі; нават пэўна ведаў, што прыйдзе яна ў 1937-ым.

Рызыкант!

Сам напрасіўся, каб Цябе правялі ў чэка.

І "праважатыя" адгукнуліся, з'явіліся ў Цахкадзор.

А, можа, й не адразу сюды, — заехалі спачатку ў Раздан...

З гары Лявон паказаў мне, дзе ляжыць Раздан.

"І гэта таксама Раздан?"

"Не, гэта ўжо вёска Макраванк".

Над пакатымі дахамі плыў белы дым, у вёсцы пяклі лаваш.

Калі папраўдзе, то я не бачыў, якія яны, пакатыя ці не – дахі ў Макраванку; іх затульваў усё той жа густы лавашны дым.

Але ж, пэўна, й тут, як і, скажам, у Арарацкай даліне, дахі спусцістыя, на якіх удзень добра сушыць садавіну, а ноччу спаць, а калі не спаць, то добра з іх глядзець у звярыны змрок неба.

Ты любіў глядзець; любіў гэты бязданны звярыны змрок, што гусцеў над плоскімі дахамі, пад якімі кахалі, і конуснымі купаламі, пад якімі маліліся.

Ноч цвяліла душу, уздымала пыл нерваў, і, дастаючы з кішэні пісталет, Ты казаў самому сабе: "О, не... Пушкін, Лермантаў, Верлен, Маякоўскі... О, не, пісталет у руцэ паэта – не смерць некаму, а проста метал злосці, якому ў пэўны момант немагчыма застацца ў думках, і таму ён апынаецца ў сціснутай далоні..."

Хаваючы зброю, пытаўся ў льва, які ахоўваў сад Наапета Кучака: хіба можна думаць, калі не думаць пра жанчыну?! – і пытаўся ў арла, які пільнаваў крыніцу Грыгора Нарэкацы: хіба можна думаць, калі не думаць пра Бога?!.

Скрозь па адгор'і саламяна залацела вярблюджая калючка, сціпла выхваляліся колкаю зелянінаю маленькія хвоі.

Аплеценыя нізкарослаю шыпшынаю, застылі нерухомелі амаль кубічныя сінявата-га колеру базальтавыя глыбы.

З апошняе, як мне здавалася, моцы трымалася за абрывісты схіл дзікая сліва, і гэтак жа натужліва напружваў свае драўняныя цяглі густалісты арэх.

А тым часам у Макраванк ішоў чалавек з мехам за плячыма; ішоў прыгожа і паважна – нячутнаю ступою апостала.

Чалавек назапашваў на зіму грушы.

Мы падышлі да дрэва, ля якога ён толькі што шчыраваў.

Гэта была светлая, нібыта напоеная срэбралітным каменем, груша; сваімі саладкімі мяккімі грушкамі яна карміла не толькі людзей, — а зусім як у прозе Акселя Бакунца[10], — аленяў і мядзведзяў таксама.

І, відаць, ваўкоў...

У ноч арышту Ты сніў срэбнае дрэва і дванаццаць срэбных ваўкоў, у чыіх вачах палымнела золата гордасці...

І я нарэшце адчуў: Тваё літаратурнае імя, як гэтая груша – хіба што Бог і дзікія звяры могуць яго разумець...

Мы паволі спусціліся з адгор'я да пісьменніцкага дома, паўз незачыненую вартоўню падышлі да Твайго помніка, і Лявон паклаў да бронзавага ўзножжа пунсовую гронку рабіны...

Тваёй магілы няма, як і Тваёй калыскі, — засталася адно ў музейным слоіку сірочая зямля Карса.

Зрэшты, не.

Магіла ёсць.

Ты разгадаў таямніцу знікнення Хачатура Абавяна[11]; зразумеў, што ён нідзе, акрамя Арарата, не мог жыць вольна і таму патаемна яшчэ раз узышоў на Арарат і там спачыў.

На Арараце ж спачываеш і Ты...

"... іншы раз пытаюцца ў мяне, а чаму на помніку не выбіта імя паэта? – гэта азваўся, зачапіў нас вартаўнік пісьменніцкага дома. – І я заўсёды адказваю, а хіба трэба на небе выбіваць, што гэта неба?! А хіба трэба на зямлі пісаць, што гэта зямля?!"

*27 снежня 2001*



*Гара Арарат*

*[1] Айастан – Арменія.*
*[2] Фрык – паэт, які жыў у 13-ым, пачатку 14 стагоддзя.*
*[3] "Нарэк" – так армяне называюць "Кнігу смутку" Грыгора Нарэкацы.*
*[4] Масіс – армянская назва гары Арарат.*
*[5] Наіры – назва Арменіі ў помніках старажытнага пісьменства.*
*[6] Тыкін – зварот да замужняй жанчыны.*
*[7] Янок – персанаж рамана "Краіна Наіры".*
*[8] Абамарш – персанаж рамана "Краіна Наіры".*
*[9] Андранік Азанян (1865—1927) – герой першай сусветнай вайны.*
*[10] Аксель Бакунц (1899—1938) – армянскі пісьменнік, закатаваны ў НКВД.*
*[11] Хачатур Абавян (1809—1848) – заснавальнік новай армянскай літаратуры і новай літаратурнай мовы.*



*Салісты ансамбля "Класік-Авангард".*

ных "каштоўнасцяў сусветнага маштабу": у якасці іх прэзентаваліся творы (аўтарская рэдакцыя І. Алоўнікава) беларускага піяніста, педагога XX ст. Я. Тарасевіча. Яго кампазітарскі лёс афарбаваны ў мінорную танальнасць, бо жыць нашаму земляку давялося хаця і на радзіме, але па той бок заходняй мяжы. (Пра Я, Тарасевіча "ЛіМ" пісаў даволі падрабязна. Самая ж грунтоўная крыніца звестак — выдадзеная летась манаграфія В. Скорабагатава "Ён абыйшоўся без славы").

З прычыны таго, што часам другасны і эклектычны тэматызм у бліскучай інтэрпрэтацыі (каб не сказаць... транскрыпцыі) І. Алоўнікава прымусіў успомніць таленавітых беларускіх меладыстаў Я. Цікоцкага, Р. Пукста, М. Аладава ды іншых нашых кампазітараў мінулага стагоддзя і задумацца: хто ж і калі пачне адраджаць іх музыку, практычна выштурхнутую з цяперашняга канцэртнага жыцця?

З прычыны таго, што інфармацыя пра брытанскага музычнага дзеяча і кампазітара, віленчука паводле паходжання, Ф. Яневіча падавалася без належных спасылак на яе друкаваныя крыніцы...

Аднак лепш успамінаць радаснае. З усяе праграмы X фестывалю, бадай, бясспрэчнае набліжэнне да абсалютнай гармоніі, да мастацкай дасканаласці было ў шасці фрагментах з "Высокай імшы" І. С. Баха ў аўтарскай транскрыпцыі І. Алоўнікава. Хор, аркестр, сольныя партыі ён умясціў у фактуры дзвюх рук! У поліфанічных спляценнях, у прыгажосці нованароджаных акордаў, у цудоўнай свежасці мелодыкі гучаў сам час: наш, а, мажліва, — будучы. Музыканцкі геній І. Алоўнікава годна вёў дыялог з Вялікім Бахам: які інтэлект, якое пачуццё формы, які аб'ём памяці!

Ён зноў уразіў-парадаваў сваімі фартэпіяннымі транскрыпцыямі зусім нядаўна, падчас ужо XI фестывалю, якім "Беларуская Капэла" адзначала дзесяцігоддзе. Россыпы бісеру ў "Гавоце" Ш. Лекока, ілюзія падвойнага аркестра ва уверцюры з "Севільскага цырульніка" Д. Расіні, да слёз кранальны гукавы міраж "Адажыо" з балета Я. Глебава "Маленькі прынц"...

**4**

Юбілейны (хаця па ліку адзінаццаты) фестываль увогуле атрымаўся змястоўным, багатым на яркія і разнастайныя ўражанні. Магчыма, якраз таму, што яго праграмы былі зарыентаваныя на выканаўцаў, поруч з якімі пражыла "БК" першае 10-годдзе, увасабляючы асноўныя прынцыпы сваёй шматвектарнай дзейнасці.

"Класік-Авангард": сакавітыя аранжыроўкі "Віленскага сшытка", "Планктаў", твораў К. Ельскага, Я. Голанда, Ф. Яневіча, зробленыя У. Байдавым; пранізлівае соло скрыпачкі А. Мальцавай; актуальныя эмацыйна, вынаходлівыя, "прыкольныя" прэм'еры "Кухоннага рэвю" класіка XX ст. Б. Марціну ды "Кіч-музыкі" нашага земляка-сучасніка В. Кузняцова...

"Званы старое казкі..." — канцэрт салістаў А. Бундзелевай, Л. Лют, Р. Палішчука ды В. Скорабагатава ў суправаджэнні Г. Каржанеўскай. Прэм'ера выбраных вакальных цыклаў Р. Шумана, Ф. Шуберта ды Я. Брамса, тэксты якіх пераклаў В. Сёмуха. Гучанне і даволі папулярных, і малазнаёмых рамансаў, перастваораных па-беларуску, праспяваных з вялікай самааддачай, зрабіла на публіку амаль гіпнатычнае ўздзеянне!

Вялікая харавая праграма, падрыхтаваная пад кіраўніцтвам К. Насаева, — з назвай "Унія" на афішы, з удзелам Камернага хору Мінскага музычнага вучылішча: ёмістая анталогія, скажам так, "Музыкі Літвы і Кароны"! Ананімныя песняспевы XIV—XV стст., фрагменты з Берасцейскага канцыяналу, з "Полацкага сшытка" ды Супрасльскага ірмалагіёна. Творы Вацлава з Шамотул, Б. Анісімовіча, Ц. Базыліка. І далей: С. Манюшка, М. К. Чурлёніс, В. Селях-Качанскі, З. Верасаў, М. Бутома, М. Равенскі, І. Мацієўскі, П. Лукашэўскі, А. Літвіноўскі, А. Хадоска, В. Вераб'ёва...

Мужчынскі камерны хор "Унія" нібыта і не знікаў з нашага канцэртнага жыцця! Аднак заўсёдныя слухачы не маглі не звярнуць увагу на малазнаёмыя твары, на зусім новае тэмбравае аблічча калектыву, які чамусьці даўно не выступаў у Мінску. Так, маэстра Насаеў сабраў абсалютна новы склад пеўчых. Сабраў і ў арганізацыйным, і ў мастацкім сэнсе: зладзіў, настроіў, бліскуча падрыхтаваў да складанага выступлення гэты выканальніцкі арганізм. Асабліва ўражвала басовая група: мяккае, багатае абертонамі, тэхнічна дасканалае гучанне! Але...

Развітанне "Уніі" з публікай! Вось што гэта, па сутнасці, было. Невыпадкова пасля выканання першых нумароў праграмы ў амаль малітоўнай цішы залы выразна прагучала: "Кепска, што ў дзяржаве няма грошай. Адзіны мужчынскі хор..."

Так, адзіны, і не абы-які. Створаны і выпеставаны найталенавітым чалавекам, Божай ласкаю Музыкантам-мастаком Кірылам Насаевым, неаднаразова ганараваны на міжнародных фестывалях, вядомы і на радзіме, і за мяжой, хор "Унія" вымушаны проста пайсці з жыцця. (Слова "музычнага" падаецца тут лішнім.) Да нядаўняга часу гэта быў штатны калектыў Магілёўскай абласной філармоніі. Грошы на фінансаванне працы двух дзесяткаў чалавек раптам "скончыліся". Без дзяржаўнай датацыі сур'ёзны музычны дзяржаўны калектыў існаваць не можа. Затое жыве шматлюдны, шматганарарны, фінансаваёмісты "Залаты шлягер". Ці патрэбныя каментары?

**5**

Каб не рабіць "стоп" на мінорным акордзе, дадам колькі ўсцешных слоў пра капэлу-юбілярку. "БК" сёння — гэта тры штатныя супрацоўнікі: Ганна Лыч, Яўсей Мантвалінскі ды Віктар Скорабагатаў. Яны маглі б расказаць пра тое, які багаты быў мінулы год на новыя выданні. Тут і рэпертуарныя зборнікі для салістаў-вакалістаў і для хору, прымеркаваныя да фестывалю "Магутны Божа". І "Музыка сям'і Агінскіх" — працяг вядомай серыі, якую капэла рыхтуе разам з фірмай "Паліфакт": у рэдакцыі І. Алоўнікава прадстаўлена творчасць дзевяці музыкантаў знанай дынастыі. Тут і выданне манаграфіі пра Я. Тарасевіча...

Ёсць і планы. Сярод іншага В. Скорабагатаў задумаў прыгожы і маштабны творчы праект: "Планкты". Прадставіць бы гэтыя даўнія перадвелікодныя, пранізліва драматычныя песняспевы ў новым абліччы: з арганам, камерным аркестрам, салістамі. Як знакамітыя "Пасіёны" І. С. Баха...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота А. МАЦЮША, В. СТРАЛКОЎСКАГА і з архіва "ЛіМа"*



*Уладзімір БАЙДАЎ.*



*Віктар СКАРАБАГАТАЎ.*

ЮБІЛЕЙ

# Праз стагоддзі



Дзевяноста год споўнілася беларускаму жывапісцу Генрыху Бржазоўскаму. З гэтай нагоды ў выставачнай зале касцёла святых Сымона і Алены адбылося адкрыццё яго выставы пад назвай "Пейзажы і кветкі". Да нараджэння Хрыстова прымеркаваў сваю выставу мастак. І адкрыццё адбылося тут невыпадкова. Яшчэ маленькім хлопчыкам прыводзіў Генрыха бацька, майстар па чырвоным дрэве, у толькі што адбудаваны касцёл. Менавіта бацька выразаў драўляны іканастас для яго.

У дзень адкрыцця выставы ў касцёле сабралася вялікае кола наведвальнікаў, блізкіх, сяброў, проста прыхільнікаў творчасці старога майстра, што прыйшлі павіншаваць яго з такой значнай датай. Мастак скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум, творча развіў яго традыцыі. Шлях да творчага ўдасканальвання заклалі Г. Бржазоўскаму яго вядомыя настаўнікі М. Керзін, М. Эндэ, Ф. Мадораў.

Генрых Бржазоўскі мае свой непаўторны стыль, за амаль што стагоддзе свайго жыцця ён напісаў больш за дзве тысячы жывапісных палотнаў — сюжэтна-тэматычных карцін партрэтаў, пейзажаў, нацюрмортаў, а ў час Вялікай айчыннай вайны, намаляваў алоўкам больш за 300 партрэтаў партызан.

Многія яго творы знаходзяцца ў беларускіх музеях, але большасць сюжэтна-тэматычных карцін 50—60-х гадоў, на жаль, пакінулі радзіму. Яны патрапілі не толькі ў прыватныя калекцыі. Пасля трагедыі 1986 г. фонд "Дзеці Чарнобыля" атрымаў ад Генрыха Бржазоўскага трыццаць вялікіх жывапісных палотнаў. На аукцыёне яны былі прададзены і зараз знаходзяцца ў Музеі Мюнхена, грошы ж пайшлі на аздараўленне хворых дзяцей Беларусі.

Па творчасці Генрыха Бржазоўскага можна вывучаць гісторыю нашай краіны, яе прыроду. У галерэі выдатных беларускіх сыноў мастак асабліва вылучаў Купалу і Коласа, але не менш улюбёна пісаў партрэты сваёй жонкі Таццяны, дачок Людмілы, Наталлі, унучак... Заслужаную вядомасць прынеслі майстру і пейзажы, асабліва краявіды мінскага наваколля, дзе сёння выраслі шматпавярховыя гмахі. Раней тут зеляннелі палі, пасвіліся статкі, стаялі на палетках снапы. Гэтыя прыгожыя палі з блакітнымі кветкамі льну засталіся толькі на палотнах Бржазоўскага. Які светлы настрой, паэтычнасць, мажорнасць гучаць у гэтых яго творах. І гэта пры стрыманай колеравай гармоніі, якой напоўнена жывапісная палітра мастака. Асобная старонка — нацюрморты, якія апошнія два дзесяцігоддзі зрабіліся асноўным і ўлюбёным жанрам Генрыха Францавіча. Яго нацюрморты жывапісуюць не проста садавіну, кветкі становяцца жывымі істотамі, яны рэальныя і прывідныя адначасова. Пры гэтым мастак не адступае ад рэалістычных традыцый. Проста ён не прапаведуе бескампрамісны акадэмізм. Дзякуючы ўнутранаму лірызму, творчай душы маэстра, карпатлівай працы на працягу ўсяго жыцця і дынамічнаму мысленню ён піша гісторыю свайго народа, апявае прыгажосць роднай прыроды.

У канцы мінулага года ў мастацкай карціннай галерэі Мар'інай Горкі адкрыліся дзве залы з пастаяннай экспазіцыяй твораў Генрыха Бржазоўскага, якія ён падараваў у свой час краязнаўчаму музею. На адкрыцці прысутнічалі гарадскія ўлады — намеснік старшыні райвыканкама Т. Шчыкоціна, якая падзякавала Генрыху Бржазоўскаму і абвясціла пастанову Пухавіцкага райвыканкама аб прысваенні яму ганаровага грамадзяніна Мар'інай Горкі. Прыехалі на адкрыццё выставы і сябры па зброі, сярод іх — камандзір партызанскага атрада імя Калініна, у якім ваяваў Г. Бржазоўскі, Анатоль Алейнік.

Творы майстра займаюць пачэснае месца ў кватэрах многіх яго сяброў, бо дарыў іх мастак ад душы. Шмат карцін знаходзіцца ў медыцынскіх установах Мінска, у Гурзуфе, Місхоры, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі Вялікай Айчыннай вайны, у ЗША, Ізраілі, Галандыі, Польшчы, Германіі, Італіі, Японіі. У Пухавіцкім краязнаўчым музеі яго дырэктар Аляксандр Пранoвіч адкрыў залу, дзе знаходзяцца карціны і рэчы мастака і яго дачкі народнай артысткі Людмілы Бржазоўскай.

**Галіна ФАТЫХАВА**

*На здымках: Г. БРЖАЗОЎСКІ на адкрыцці выставы; партрэт Янкі Купалы (1981 г.).*



## *Малавядомымі дарогамі нашай літаратуры*

**Напрыканцы 2001 года ў Польшчы (Беласток) у серыі "Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" выйшла ў свет кніга Алеся Пашкевіча "Зваротныя дарогі. Проза беларускай эміграцыі XX стагоддзя". Гэта першае маштабнае манаграфічнае даследаванне прозы нашага замежжа ў стагоддзевым абсягу, у якім канцэптуальна цэласна і ў агульнаславянскім кантэксце прааналізаваны літаратурна-грамадскі рух беларускай эміграцыі і яго мастацкі плён у жанры прозы.**

**Кніга А, Пашкевіча мае арганічную і прадуманую кампазіцыю. Ва "Уступе" робіцца аналіз распрацаванасці тэмы, яе актуальнасці і значнасці. Багаты на фактычны матэрыял раздзел "Літаратурна-грамадскі рух беларускай эміграцыі XX стагоддзя (1918—1990-я гады): згуртаванні, асобы, выданні", у якім падаецца абагульненая карціна нашай "літаратуры выгнання" ў многіх краінах свету (у Літве, Латвіі, Чэхіі, Нямеччыне, ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Францыі, Польшчы і Аўстраліі). Наступны раздзел кнігі — "Беларуская літаратура XX стагоддзя як цэласны гісторыка-культурны перыяд. Паняцце мастацкай мадэлі нацыянальнага быцця" — бачыцца канцэптуальным ядром кнігі. Вывучаючы адлюстраванне і ўвасабленне мастацкай мадэлі нацыянальнага быцця ў прозе нашай эміграцыі, А. Пашкевіч і праводзіць сваю далейшую класіфікацыю разнароднага празаічнага матэрыялу на тры асноўныя групы, слушна зазначаючы наступнае: "Толькі пасля ўвядзення творчасці нашай эміграцыі ў адзіны агульнанацыянальны кантэкст беларускую літаратуру XX стагоддзя можна ўспрымаць як цэласны гісторыка-культурны перыяд у развіцці нашага мастацтва, бо ў ёй <...> найперш атрымоўвалі працяг тыя літаратурна-эстэтычныя канцэпцыі і жанрава-стылёвыя накірункі, якія патрапілі пад вынішчэнне, забарону ці ідэйны дыктат-спрашчэнства ў літаратуры савецкай (узвышэнская плынь, гістарычная, сатырычная, мемуарна-аўтабіяграфічная проза)".**

**У наступных раздзелах кнігі пададзены разгляд эмігранцкай спадчыны каля пяцідзесяці беларускіх празаікаў, большасць з якіх — ці мала вядомыя айчыннаму літаратуразнаўству, ці не вядомыя. Так, раздзел "Гістарычная проза беларускай эміграцыі" асвятляе творчасць Вацлава Ластоўскага, Паўлюка Вазёрнага, Уладзіміра Случанскага, Юркі Віцьбіча, Аўгена Кавалеўскага і іншых; "Мемуарна-аўтабіяграфічная проза беларускай эміграцыі" складаецца з асобных падраздзелаў з манаграфічным разглядам жыццяпісаў і твораў Віктара Вальтара, Францішка Аляхновіча, Уладзіміра Сядуры-Глыбіннага, Кастуся Акулы, Аўгена Калубовіча, Міколы Цэлеша, Масея Сяднёва, Аляксандры Саковіч; у раздзеле "Сатырычная проза беларускай эміграцыі" падаецца аналіз прозы Лявона Савёнка і Антона Адамовіча. Грунтоўным у кнізе атрымалася і "Заключэнне", дзе падагульняюцца асноўныя вывады даследавання.**

**Кніга А. Пашкевіча — значная падзея беларускага літаратуразнаўства. Гэтая праца — сведчанне багацця нашага прыгожага пісьменства, яго трагічнага, пакручастага і неўміручага лёсу.**

**"Зваротныя дарогі...", якія выйшлі пры фінансавай падтрымцы Цэнтра народнай адукацыі "Польшча-Беларусь" і Беларускага саюза ў Польшчы, у Мінску можна набыць у сядзібе ТБМ, на вул. Варвашэні, 8, у "Беларускім кнігазборы" ці ў кніжным шапіку на філфаку БДУ.**

**Сяргей ІВАШЧАНКА**

## "ЛіМ"-ФОТА



*— Смялей, бацька! Лёд вытрымае... Як будзеш падаць, я пад-трымаю...*

*Леанід ЛЕВАНОВІЧ з малодшай дачкой Вольгай на катку ў Бостане. ЗША.*

Снежань 2000.

*Фота Аляксандра КОРЗУНА*

ПАЭЗІЯ

Уладзімір МАЗГО



# І знае, мабыць, толькі Бог...

●

*Запомнім гэты дом,*
*Што памятае нас,*
*Дзе льецца малаком*
*Праз комін дым,*
*Як час.*

*Стары пахілы плот*
*Гарод аперазаў.*
*На ганку сонны кот*
*На кліч не адказаў.*

*Абветраны парог*
*Хапае за крысо,*
*Нібыта абярог*
*Аддаленых часоў,*

*Дзе з абразоў акон*
*У промнях залатых*
*Бацькі глядзяць спакон*
*Выявамі святых.*

*Дзе ўюцца, як раней,*
*Над комінам стрыжы...*
*Што гэта —*
*Міражы...*

*Сцяжынку за акном*
*Заснежыла зіма.*
*Запомнім гэты дом,*
*Якога больш няма...*

●

*Каласавіны.*
*Юбілей*
*Святкуе Колас.*
*Гучыць у цішы*
*Між алей*
*Адвечны голас.*

*Спявае*
*"Новая зямля"*
*Бацькоўскім краем.*
*"Сымон-музыка",*
*Наш зямляк,*
*На скрыпцы грае.*

*Свой лёс*
*"На ростанях" дарог*
*Шукаюць людзі...*
*І знае, мабыць,*
*Толькі Бог,*
*Што заўтра будзе.*

## Свята паэзіі ў Ракуцёўшчыне

*Мы прыедзем*
*У гэты куток —*
*Хто мы ёсць на зямлі —*
*Не забыцца,*
*Свой адчуць*
*Спаконвечны выток*
*І табе яшчэ раз*
*Пакланіцца.*

*Развярэджанай памяці млын*
*Перамеле журбу нашу:*
*Верым*
*Мы не ў горкую*
*Зорку Палын,*
*А ў святло*
*Незгасальнай Венеры.*

*Каб,*
*Далёкі ад ядзерных зім,*
*Родны кут*
*Адраджаўся вяснова,*
*Нашы душы адтаюць,*
*Максім,*
*Ад твайго пранікнёнага*
*Слова.*

*Будуць доўга*
*Ў прасторах лунаць*
*Незабыўныя вершы*
*І песні.*
*Каму лёс*
*На чужыне канаць —*
*На радзіме сваёй*
*Уваскрэсне.*

*Дагарыць*
*У кастры бервяно*
*Не адно*
*На паляне вялікай.*
*Здыме сонца,*
*Нібыта вянок,*
*З вечаровых нябёс*
*Вераніка...*

●

*Які там Бетховен!*
*Які там Маэм!..*
*Настаўнік,*
*Духоўна багаты,*
*Рашае штодзённа*
*Праблему праблем:*
*Дажыць да зарплаты...*

*Вядомы пісьменнік*
*Жыве, як жабрак,*
*Што выйсце*
*Шукае ў пустыні.*
*Калі апранае*
*Святочны пінжак,*
*Кішэні —*
*Пустыя...*

## Каля нуля

*Іскрыцца*
*Тонкім лёдам*
*Каляя,*
*Тэмпература зноў —*
*Каля нуля.*

*Надвор'я*
*Надакучлівы капрыз:*
*Не можа стрэлка ўверх,*
*Не можа ўніз*

*Па лесвіцы тэрмометра*
*Паўзці,*
*Нібы знямогла просіць:*
*«Адпусці...»*

*Але, як ні прасі,*
*Усё дарма:*
*Трымае*
*Безвыходнасці турма.*

*Каля нуля! —*
*Ні холад, ні цяпло —*
*Гайдаецца ў паветры,*
*Як сцябло...*

*— Які настрой? —*
*Цікавяцца здаля*
*На вуліцы сябры.*
*— Каля нуля...*

## Санет

*Ляціць у вырай жураўліны клін,*
*Самотным крыкам далі працінае,*
*Хоць нізашто ў жыцці не прамяняе*
*На лёд какосаў полымя рабін.*

*Апошні ліст зрываецца з галін,*
*Падхоплены вятрамі, адлятае.*
*Калі ўладарыць восень залатая,*
*Ён жабраком блукае па зямлі.*

*У час журбы і мы за далягляды*
*Спяшаемся, шукаючы спагады.*
*А на чужыне — настальгіі дым,*
*І нашы вочы плачуць ці смяюцца,*
*А душы трызняць толькі аб адным,*
*Каб на радзіму птушкамі вярнуцца.*

# Дзесьці там, у Каталуніі

## ПАДАРОЖНЫЯ НАТАТКІ

Адам ГЛОБУС

Каб пачаць, патрэбна кропка, штур шок, азарэнне. Нарэшце ёсць... На бульвары Рамбла сядзіць чалавек з сінім тварам. Ён стаміўся і прысеў на дыктавы куб. Цэлы дзень прапрацаваў жывой скульптураю, цяпер распрануўся, адпачывае. Ён дастаў люстэрка і сурвэткаю выцер грым. Звычайны непрыкметны мужчына. Каб звярнуць на сябе ўвагу, яму штодня даводзіцца фарбавацца ў цёмна-сіні колер. Мне, каб напісаць нататку, патрэбна нешта незвычайнае, хоць бы мужчына з безнадзейна-сінім абліччам.

Іншы выпадак з перафарбоўваннем згадваецца...

Ведаю-ведаю, мушу шанаваць сіесту, але кожнага разу спрабую яе перамагчы. Сованося, як абліты кіпенем паўжывы рак, па пустых і белых ад сонца вуліцах Барселоны. Змагаюся са сном, з млосцю і вар'яцтвам. Я нагадваю Дон Кіхота і Панса ў адной асобе. А ўвечары, калі горад выходзіць на фэст, я кладуся галавою, поўнай волава, на падушку і праваьваюся ў сны жахаў, дзе мой тата нябожчык пафарбаваў сівыя валасы ў вугальны колер і паступіў на першы курс універсітэта разам з маёй дачкою. Раніцай толькі мора вылекае маю стому, а там недалёка і да сіесты, толькі гэтым разам я зашторваю вокны і чытаю. Сіесту неабходна калі не шанаваць, дык хоць бы паважаць.

Чытанне — адзін з найлепшых заняткаў, прынамсі, для мяне. Яшчэ ў Тайландзе я іранізаваў з коміксаманіі, якая накрыла хваляю не толькі дзяцей і падлеткаў, але і дарослых. Раптам, праз 5 гадоў у Барселоне, я заўважыў за сабою схільнасць разглядаць у кнігарнях кнігі і альбомы з каляровымі карцінкамі, у тэкстах я прачытваў толькі імёны і даты. Так атрымлівалася, што большасць паліграфічнай прадукцыі чыталася і глядзелася як коміксы, а не як літаратура і тэксты. Перавага візуальнага над вербальным, слоўным, тэкставым, настолькі вялікая, што ігнараваць такі факт проста немагчыма. Гартаю шляхавадзіцель па Іспаніі, зроблены ангельцамі, і з'яўляецца жаданне перарабіць у коміксы гісторыю рэлігій. Уявілася такая кніга па хрысціянстве, ісламе, будызме, іудаізме... Хутчэй за ўсё яны ўжо робіцца або зроблены іншымі, але гэта не выключае прысутнасці на рынку і майго аўтарскага прачытання праваслаўя ў форме фота+подпіс.

Пасля сіесты з чытаннем самы час наведаць рэстарацыю. Калі ў вялікай рэстарацыі, кшталту Santa Maryia, сесці тварам да кухні, дзе шчыруюць няголеныя, валасатарукія, чараватыя кухары, і доўга назіраць за афіцыянтамі, якія выносяць гарачыя стравы і вяртаюцца са стосамі пустога посуду, дык можна заўважыць падабенства афіцыянтаў да вярблюдаў, да каравана, замкнёнага ў кола вечнага рухавіка. Яшчэ больш дасканалым выглядае ланцуг афіцыянтаў на фоне карцінаў і гадзіннікаў, развешаных па сценах. Ні адно з сотні палотнаў не вісіць роўна, ні адзін з дваццаці старых гадзіннікаў не ходзіць. А вось кормяць у "Святой Марыі" смачна, толькі порцыі завялікія.

Шпацыр пасля рэстарацыі — цудоўная рэч. А куды ісці, ехаць у Барселоне? Вядома, на Рамбла. Газетныя шапікі на бульвары Рамбла заваленыя порнапрадукцыяй. Яшчэ два гады таму падобныя касеты, часопісы Sex і Private, Pirate і SexOrgies можна было набываць толькі ў Sex-Shop(ах). Іх загортвалі ў чорныя пакеты, падобныя да мяхоў для смецця. З падобным мяшэчкам было няёмка шпацыраваць па Барсе. Цяпер купляй — не хачу. Пакунак атрымаеш звычайны, светлы. Тут і ўзнікае цікаўнасць. Што ж тады прадаецца ў Sex Shop(е)? Зварочваю з бульвара, абмінаю бар "Оргія", заходжу. Усё на месцы: пратэзы палавых органаў, касеты, часопісы з экзотыкаю, майткі і панчохі горшыя, чым у звычайных крамах бялізны. Ніякіх адкрыццяў і нечаканасцяў. Застаецца прайсціся па вуліцах з прастытуткамі. Можа, там набачанае раней напаткаю. Пагледзеў на дзяўчыну-шкілет без зрэнак. Не ведаю, які наркотык робіць такі эфект — сціскае зрэнкі ў нішто, але ж ёсць і такі. На пляцы, пад чэзлымі платанчыкамі, тусавалася з пасотні абдолбаных наркотаў. Я прайшоў праз іх раслінную сутнасць, як праз бамбукавыя зарасці. Нікога не зачапіў, і мяне ніхто не закрануў. За наркатычным пляцам пачыналіся вуліцы, завулкі і тупікі з прастытуткамі. Іх можна фатаграфаваць (хоць фатаграфаваць іх якраз і нельга) і заносіць у кнігу Гінэса. Яны, пэўна, удзельнічалі ў паўстанні анархістаў, якія ў 1937 годзе абвясцілі ў Каталуніі дазвол на свабоднае каханне, абвясцілі і прайгралі вайну.

Вяртаюся на Рамбла, дзе кожны ідыёт лічыць сваім абавязкам сфатаграфавацца з чалавека-калонаю за 100 песетаў. Ну а мне, як індывіду беражліваму, застаецца апісаць людзей-скульптураў. Усіх бульварных артыстаў паказваць няварта, бо шмат малацікавых і старамодных. Скажу пра новае. Раней не было абсыпанага мукою чалавека ў лядоўні. Сядзіць і круціць вачыма, як незабыўны Макс Ліндэр. За капейку скурчваецца і зачыняецца. Каханак без палюбоўніцы. Ёсць і палюбоўніцы без каханкаў. Афелія ў жоўтым строі на хадулях. Яна паціскае ручкі даверлівым дзяўчаткам. А сіневалосая секс-бомба дазваляе мужчынам пакласці далоні на бюст 15 памеру. Побач рагаты чорт кепска грае на таннай дудачцы. За ім роба-рэпер выпляскае касманічныя факстроты. Танцора пераўзыходзіць манах, задзірае сутану і паказвае набыты ў секс-краме вялізны пратэз. Усіх пераплёўваюць украінцы — у саламяных брылях, кашулях-вышыванках, чырвоных шараварах і ботах, яны вынеслі на Рамбла скрыпкі з барабанам і зацягнулі сумнуюсумную песню пра горкую долю. Псеўдаукраінцыянальныя апранахі глядзеліся лепш за срэбную і бронзавую фарбу на іншых чалавекаскульптурах, бо падобнымі колерамі ў нас фарбуюць агароджу на могілках. Я ледзь не даў 100 песетаў украінкам. Стрымаўся. Галасы ў іх слабыя. А на Рамбла трэба весяліцца і весяліць іншых на поўніцу, хай сабе і гумовым дручком.

Толькі ў Барселоне можна зразумець, які вясёлы й жывы мастак Пікаса. Скульптура Пікаса стаіць пасярод фантана, запакаваная ў празрысты куб. Шкло замутнёне, а таму аб'ект глядзіцца, як гурба ламачча. Непадалёк, на лаўцы сядзіць голы, у адных шэрых трусах, жабрак. Ён скупануўся ў фантане, прайшоў, намаляваўшы на асфальце вільготную сцежку, і абуваецца. Чаму ён спачатку вырашыў абуцца, а не порткі нацягнуць? Мусіць, калашыны ў нагавіцах заваляюць складаць порткі абутаму. Але асноўнае — бомж падобны да Пікаса: лысы, лупаты, шырокі, невысокі. Ягоны ружовы матрац ляжыць побач, за кустамі. Яшчэ адна жывая з найжывейшых скульптур Барселоны.

Разглядаючы бамжа-Пікаса, не заўважыў, як да мяне падышла турыстка: "Мсье, эскьюзь мі, а где тут чэнч?" — Так яшчэ ніхто не пытаўся дарогі. Я спакойна параіў яўрэйцы гаварыць па-расейску і патлумачыў, дзе шукаць абменнік. Яна ўзрадавалася і спытала, ці не я — той цудоўны гід, які вадзіў яе ў казачны дом Гаўдзі. Даваліся расчараваць падарожніцу. Я, канешне, цудоўны, але не гід. Тады яна спыталася, ці не чакаю я, калі каталунцы ў чырвона-вішнёвых кашулях пачнуць будаваць жывую вежу ў 8 чалавека-паверхаў? "Не, я, як і ўсе, чакаю, калі нехта з гэтай вежы ўпадзе". "А-а-а-а", — вандроўніца пайшла ў абменнік, а я ў кавярню.

У кавярні над кубачкам гарбаты схілілася наркаманка. Яна робіць не першую спробу зрабіць хоць бы адзін глыток. Але ў апошні момант, калі вусны датыкаюцца парцаляны, страўнік спазматычна сціскаецца, рукі б'е дрыготка і гарбата выплёхваецца на сподак. Невідушчымі вачыма дзеўка аглядае прысутных. Ці не бачыць хто яе пакуты? Прысутныя тактоўна адварочваюцца. А яна, змучаная пасля няўдалых спробаў наталіць смагу, хаваецца ў прыбіральню, з якой вылятаюць гучныя вяканні; такое сола над унітазам, такі джаз.

Іду на пляцы Каталуніі, дзе фантаны колеру конскай мачы, і сядаю я на лаўку. Зручная лава, брунатная, чыстая, гладкая. Сяджу і гляджу на скульптуры. Бронзавыя коні трымаюць на сабе голых красуняў. Коні магутныя, красуні з шырознымі сцёгнамі і пудовымі цыцкамі. Жанчыны ўздымаюць над галовамі караблі з металічнымі ветразямі. Рамантычнасць навязлівая, але ж выключна барселонская. І тут: "Вэ-э-э!!!". Азіраюся: хлопец схіліўся над вадасцёкам і ванітуе белым, нібыта кіслым малаком. Другі суцяшае, мармыча цёплым голасам. Званітаваў хлапчына тры разы, завёў матаролер і звёз суцяшыцеля ў вечаровы тлум. Чаму трэба за маёй спіною ванітаваць? Мог бы ў фантан. Не-е-е... Ён сфантанаваў у вадасцёк. Правільны.

І я правільны — кіруюся ў касцёл.

Раней мне вельмі падабаліся касцельныя свечкі ў рознакаляровых пластыкавых цыліндрах. Зялёныя, жоўтыя, сінія, чырвоныя — яны зіхацяць вітражнай таямнічасцю пад абразамі і скульптурамі. Цяпер не падабаюцца, з-за таго, што я сам пачаў іх купляць. У Парыжы, успамінаючы бабу Ядзю, а ў барселонскім гатычным квартале, думаючы пра тату. Не люблю я каляровыя свечкі за легкаважнасць. Вялікая, а лёгкая, пуставатая. Каб нейкі кавалачак металу клаўся на спод шклянкі, было б лепш. І, пэўна, не ставіў бы я свечку ў Барсе, каб не драўляны, падобны да таты, хлопчык. Леваруч ад алтара ён стаяў са скрынкаю для ахвяраванняў. На ім была чырвоная палярына, белы доўгі хітон, падперазаны брунатным пасам. Хлопчык акуратна падстрыжаны. Ягоны гладкі твар, з даўгаватым носам, глядзеў на мяне ясным паглядам цёмных татавых вачэй. Вось так, мой тата ў час Другой сусветнай вайны прыслужваў ксяндзу ў Навагрудскім касцёле. Доўгай адмысловай запалкаю я засвяціў чырвоную свечку непадалёк ад хлопчыка са скрыняю, на якой было напісана: "Almoina Sant Jaume".

Урачыстыя, паслякасцельны настрой псуюць паліцыянты.

На чыгуначным вакзале яны арыштоўвалі хлопца. Што ён утварыў — не ведаю, бо прыйшоў запозна. Адзін паліцыянт выкалупваў з сотавага тэлефона сім-карту, а другі нешта тлумачыў затрыманаму педагагічным тонам. Я схадзіў па квіток. Да электрычкі заставалася хвілінаў 10, і я пайшоў на каву. З бара бачыўся занудны краявід са смеццевымі кантэйнерамі. Да іх і прывялі хлопца. Ён апусціўся на калені і шырока раскінуў рукі, вымольваючы свабоду. Але паліцыянты — вусатыя, сур'ёзныя, спакойныя — не адпускалі. Хлопец махаў рукамі, нахіляў пабычынаму галаву, растапырваў кароткія пальцы. І я заўважыў наколькі інтэрнацыянальныя жэсты крымінальнікаў. Каб адкінуць чыста раманскую смуглявасць і чарнату, дык рыхтык беларускі бандыт са станцыі Мінск-таварная быў перада мною. У белай машыне паліцаі звезлі крымінальніка. Добра, што не білі на вачах у людзей. А яны могуць.

Ёсць непараўнальная радасць — ружовым надвячоркам імчацца на электрычцы па Каталуніі. Глядзець, як пасвяцца белыя коні разам з чорнымі авечкамі. Сачыць за светлай вежаю вясковага касцёла на далягядзе. Любавацца чырвонымі, як кроў, палямі. Не спыняючыся, пралятаць мястэчкі ў скалах над морам. І, нарэшце, апынуцца ў гатэлі.

Гатэль патрабуе асобнай увагі. Акрамя заўсёднага мыла і чыстых ручнікоў, у гатэльнай прыбіральні-лазенцы знайшлася зубная шчотачка з пастаю і крэмам для галення з аднаразовым станком. На чорта танныя прылады, калі ў мяне, ды і ў кожнага ў падобным гатэлі, збудаваным амерыканцамі для заможных курортнікаў, ёсць уласная брытва і паста?! Пытанне мучыла нядоўга, бо калі вярнуўся з мора і пабачыў свае ступакі, запэцканыя густой нафтаю, дык не знайшоў нічога лепшага, як намазаць іх крэмам для галення і адшараваць зубной шчотачкаю. Яна сапраўды аднаразовая, але нафту з пятаў адмывае выдатна.

У гатэлі, які б цудоўны ён не быў, заўсёды сутыкнешся з гадам.

Парода жлабоў, якіх постсавецкі народ ахрысціў новымі рускімі, відавочна выдыхае, дзякуючы намаганням паліцыянтаў усіх дзяржаў і народаў. Але маманты-дыназаўры яшчэ дзе-нідзе тарпляюцца на вочы. Назіраць за імі досыць цікава. Быкаабрыснага маладзёна я ўбачыў за сняданкам. Ён еў ёгурт з мусліямі і прагна сачыў за прысутнымі, злавіўшы мой позірк, дастаў з кішэні тэлефончык і загаварыў па-нямецку. Я не настолькі абазнаны ў германістыцы, каб адрозніваць акцэнты. Падумаў: вось і ў немцаў вывеліся пачвары, напэўна, выпаўзлі з ГДР. На тым і скончыў назіранні. Але праз пару дзён пабачыў жывёліну ў бары, дзе той піў белае віно з сандвічамі, паліваючы іх тоўстымтоўстым слоем кетчупу, і вёў працоўныя перамовы па-ангельску з дробненькім лацінаамерыкосам. Гаварылася пра дзевак, якія мусілі прыехаць у клуб, а не даехалі. Калі ап'янелы лацінас сышоў у бок прыбіральні, новы рускі выдаў тэлефонны маналог: "Я. Я эта. Б..., на х... Так, как дагаваріваліcь. Всё как дагаваріваліcь. Б... Он чо, не понял? Петух сраный. Підар. Он что, нас, пацанов, не знает? Мы опустим его, підараса сраного. Я уже еду. Самалёт в семь, до Берліна. На х... Знаешь, не то что-то вокруг. Б... Слежкі боюсь. Б... Слежкі! Встречай. Всё". Размова скончылася. Вярнуўся лацінас. Новы рускі кінуў на стол грошы, злосна паглядзеў у мой бок і, падхапіўшы валізы, пашыбаваў да таксі. А мне падумалася: "Нядоўга яму засталося баляваць з прахалодным белым віном".

Калі ёсць цёмнае, будзе і светлае. У мяне з'явілася новая сяброўка — Лінда Андэрсан. Яна выдатна стаіць пад вадою на галаве. Яна любіць музыку і добра малюе кветкі. Яна з радасцю прыняла маю прапанову прагуляцца разам па крамах. Мы гулялі, узяўшыся за рукі, па вясёлкавых вуліцах сталіцы еўрапейскіх геяў — Січэзе. Мы накуплялі розных прыладаў для малявання. Пагледзелі ў антыкварнай краме аўкцыённыя тавары. Два графічныя лісты Тапіеса нам спадабаліся. Кітайскую вазу ростам з чалавека мы б забралі, калі б нам аддалі яе за проста так. З антыкварнай мы пайшлі ў цукерачную краму. Было дзіўна глядзець, як адна прадавачка робіць навагоднія падарункі. Улетку падарункі з цукеркамі выглядаюць нечакана і свежа. А мужчына пачуваецца ў цукерачнай краме няўтульна сярод вясёлкавых абгортак-фанцікаў, дзяўчынак і бабулек. Лінда выбрала бела-чырвоны шарык, і мы пайшлі на гушкалку. Спадарыня Андэрсан лётала да аблокаў. А я курыў на лаўцы, наўскрайку дзіцячай пляцоўкі.

Праз дзень Лінда з мамаю з'ехала ў Рыгу да таты.

Калі з гатэля з'язджаюць знаёмыя, дык абавязкова пакінуць нешта-нейкае. Выкінуць шкада, цягнуць з сабою лянотна, ды і рукі паабрываюцца малапатрэбнае валачы. Нешта трэба кінуць. А тут ты памагаеш збірацца ў дарогу. Вось і атрымліваеш падарункі ў выглядзе электрачайніка, ёгуртаў, пакецікаў гарбаты, ножыка, украдзенага ў рэстарацыі, галоўкі часнаку, лаку для валасоў, часопіса моды і памідорыны. Складаюцца падарункі ў каробку з-пад чаравікаў і пераносяцца ў твой нумар. Знаёмцы сядаюць у таксоўку і ядуць у аэрапорт. Табе застаецца спадчына. З сумам думаецца, што спадчына ўся такая — малапатрэбная ў сутнасці. У роспачы памідорына кроіцца крадзеным нажом і з'ядаецца на амаль жалобную вячэру.

(Заканчэнне на стар. 14 — 15)



У музеі Міро



Гатычны квартал у Барселоне

*Бывай навекі!*
*Мухабат.*

Часам ты мудры і філасафічны:

*Патрон —*
*рыфмуецца нейтрон...*
*Хто думаў —*
*ад патрона*
*шлях будзе*
*да нейтроннай?*

Шмат дасталося ад цябе нейкаму Івану Аўдзею, стаўбцоўскаму эмігранту з штата Нью-Джэрсі:

*Раз'язджаеш,*
*як свацця тая,*
*па свеце,*
*з той розніцай,*
*што прымусова...*
*Сасватаны ты*
*навекі са смеццем —*
*такім, як і сам.*

Уражвае, і як ты падцікоўваеш за нейкай дзеўкай на возеры:

*Як балерына, ты,*
*Лілея,*
*Як сімвал пекнаты.*
*Гляджу праз чараты —*
*Хмялею.*

І вельмі ўражвае тваё "крэда":

*Мне,*
*нашчадку плытагона,*
*Радзіцца суджана было*
*І несці горда сцяг чырвоны,*
*Пад вешчым жыць яго крылом...*

Як усё-такі мудра ты заўважаеш: "самы лепшы крытык — час". І як добра, што ты ўрабляеш сваю паэтычную дзялянку, не зважаючы ні на якія, нават сусветныя катастрофы і катаклізмы, кветачкамі сваёй паэзіі пільна засцерагаеш іх ад "ворагаў". Таму і заканчваю неўміручымі радкамі з твайго зборніка, які я набыў, ахвяраваўшы смачным замежным прадуктам.

*Мы —*
*каласы*
*З жыццёвай паласы,*
*Не сагнуць якія*
*Ні вораг,*
*ні стыхія.*

Зусім табе не вораг

**Юры СТАНКЕВІЧ**

***P.S.* Спадзяюся, дарагі Яўген, што ты больш не будзеш слаць мне "маляву". Ужо ідуць табе незлічоныя лісты ад вучняў і настаўнікаў, каб ты працягваў сваю аповесць "Прынцэса з тусоўкі", а мне якраз час шынкаваць капусту да зімовага сезона.**

ПАМЯЦЬ

# Памёр Яўген КУЛІК



12 студзеня пасля цяжкай хваробы на 65-м годзе жыцця памёр **Яўген КУЛІК**. Імя гэтага чалавека шырока вядомае беларускай грамадскасці. Выдатны мастак-графік, грамадскі і культурны дзеяч усё сваё свядомае жыццё быў нястомным руплівіцам на ніве беларушчыны. Стаяў ля вытокаў Беларускага народнага фронту "Адраджэнне", быў адным з арганізатараў мастацкай суполкі "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў. Чалавек выключнай эрудыцыі, інтэлігентны і добразычлівы, ён заўсёды быў надзейнай апорай для сяброў і паплечнікаў, маральным узорам як для малодшых, так і для сваіх равеснікаў. Мы выказваем самае шчырае спачуванне яго родным і блізкім, сябрам і аднадумцам, усім, хто яго ведаў і любіў. Смуткуем разам з вамі.

**Сябры суполкі "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў**

# Адысці — і застацца

Вось і няма сярод нас Яўгена Куліка. Адышоў не толькі нацыянальна самабытны, з адметным поглядам мастак, а найперш грамадзянін Беларусі, адзін з самых апантаных, духоўна моцных і нязломных сімвалаў нашага Адраджэння, які не проста апынуўся на ўзлобку хвалі пачатку 90-х гадоў, а якраз і быў тым, хто спакваляназапашваў грамадскую энергію абуджэння і ў 80-я, і ў 70-я. А мо і раней. Бо асабіста я ўведаў яго такім, якім ён быў да апошняга ўздыху — самаахвярным, бескампрамісным, усёй сваёй грамадзянскай і мастакоўскай існасцю беларускім. Нават не ўяўляецца, што некалі быў іншым. Хоць, напэўна, і не стаў такім з малых гадоў. Бо нарадзіўся не дзесьці ў глыбінцы, дзе беларускасць трывала сама сабой, а ў спрэс дэнацыяналізаваным Мінску. І паходзіў не з інтэлігенцкай, а простай працавальнай сям'і, вучыўся ў адной з тыповых савецкіх школ, дзе ўсе прадметы выкладаліся па-руску, у тым ліку і беларуская літаратура, а родную мову, як штосьці нікому не патрэбнае, можна было ўвогуле адкінуць і не вучыць. Свайго, нацыянальнага, амаль зусім не было і ў Мінскім мастацкім вучылішчы, і ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, якія ён пазаканчваў адпаведна ў 1957 і 1963 гадах. З такога навучання і выхавання, як вынік, атрымліваўся ўсярэднены чалавечы шырпатрэб. І на маёй памяці ўсяго толькі жменька свядомых беларускіх мастакоў, якія не дзеля экзотыкі і пры адпаведнай фармальнай патрэбе, а заўсёды і паўсюль карысталіся роднай мовай, былі арганічна ўкаранёнымі ў гісторыю роднага народа, усёй сваёй сутнасцю злучанымі з яго духоўнай спадчынай...

Сёння Саюз беларускіх мастакоў ужо не ўяўляе сталочанага бязроднага поля, і гэты паварот да саміх сябе, да свайго наўрад ці хто мог прадказаць яшчэ гадоў пятнаццаць назад. Але такое адбылося не само сабой, а дзякуючы самаахвярнасці такіх, як Яўген Кулік, якія спакваля, скажам так, пераціралі і ляпілі з пяску і гліны дзіды і ружы. Тут можна было б згадаць святкаванне на высокім народным узроўне юбілеяў Міколы Гусоўскага, Цёткі, зладжаныя на бескарыслівых памкненнях выставы ў гонар славутых людзей Беларусі, і шмат чаго іншага.

Гэта ў значныя перыяды жыцця патрабавала поўнай самааддачы, якая, зразумела, у іншых умовах магла б рэалізоўвацца выключна ў творчасці. Але здзейсненага дастаткова, каб творчая спадчына Яўгена Куліка засталася на скрыжалях нашай гістарычнай нацыянальнай памяці. Тут ілюстрацыі да кніг "Слова аб палку Ігаравым", "Песня пра зубра" М. Гусоўскага, нізкі аркушаў "Помнікі дойлідства Гарадзеччаншчыны", "Паўстанне 1863 г. на Беларусі", "Выдатныя дзеячы гісторыі і культуры Беларусі", малюнкі-рэканструкцыі "Замкі Беларусі", гербы магдэбургскага перыяду да кнігі "Гербы беларускіх гарадоў" А. Цітова.

Яўген валодаў энцыклапедычнымі ведамі па гісторыі Беларусі, быў да педантызму дакладным ва ўзнаўленні пазнак мінуўшчыны, і гэта, безумоўна, паспрыяла таму, што яму ў сааўтарстве з мастаком Уладзімірам Крукоўскім было даручана выкананне эталону дзяржаўнага герба Беларусі "Пагоня".

Апошнім часам на рэспубліканскіх выставах побач з творамі самога Куліка ўсё часцей мы бачылі яго вобраз увасобленым у працах іншых мастакоў. Найбольш удала, мяркую, узвышана-рамантычная постаць грамадскага руплівіца ўвасоблена ў карціне Аляксея Марачкіна, дзе Яўген нібы ўздымаецца ўвысь, узлятае над зямлёй разам з нацыянальным сцягам, а роздумна-засяроджаная сутнасць чалавека нялёгкага жыццёвага лёсу — у невялікай станковай скульптуры Алеся Шатэрніка.

Жыццё Яўгена Куліка, як і роднаснага яму па духу Міколы Ермаловіча, — яскравы прыклад самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне праз пераадоленне не толькі знешніх абставін, але і ўласнай фізічнай нямогласці.

Моцныя духам, адыходзячы ад нас, назаўжды застаюцца побач са сваімі аднадумцамі-пабрацімамі.

**Яўген ЛЕЦКА**

так. Але хто там уночы, у страбаскапічным святле разгледзіць, як ты выломліваешся. Давыкручваўся я да сёмага поту ў падмагільных танцах і апынуўся за стойкаю гейскага бара "Media Taraneo". Замовіў гарэлку. Без лёду! Бармен лёд выкінуў са шклянкі і наліў замест гарэлкі ледзянога спірту. Шахнуў я спірту і звяў, захварэў. Не трэба было голым каля магілак скакаць!

Тры дні не хадзіў на пляж. Ачомаўся і пайшоў. Заплыў далёка ў мора, а калі вяртаўся, пабачыў, як у скалісты грот прыйшла парачка. Вядома, я б не паплыў наўпрост на іх, каб каля гэтай неглыбокай пячоры не засталіся апранахі. Каханкі распрануліся цалкам. Ён — высокі смуглявы, а яна — доўгавалосая і светласкурая. Яны пачалі лашчыць адзін аднаго. Я паспрабаваў плыць на спіне, каб не перашкаджаць каханкам сваімі пагядамі. Непадалёк ад берага я павярнуўся на жывот і ўбачыў, што постаць светласкурая, якая прымалася за жанчыну, таксама мужчына. Я спакойна выцерся, апрануўся і сышоў.

Іду з пляжа. Пад агаваю знаходжу 25 песетаў. Пашанцавала. Дробненька падфарціла. Манета з дзірачкай твая. Нехта згубіў, ты знайшоў. І ты некалі нешта губляў. Бярэш. Закідаеш у кішэнь. І... Не радуешся. Мала 25. Каб 50, ці каб 100... Вочы абшукваюць камяністую сцежку. Дзе яны 100, 50, ці хоць бы 5, ну на крайні, горшы выпадак — 1. Ну, 1. 1 і ўсё. Песеты не грыбы і ў парках не растуць. А вочы не супакойваюцца, шукаюць-шнырують-вышукваюць спажыву грашовую. Каб ім пуста было. Ім пуста. Мне пуста. У такія хвіліны я сябе не люблю.

*Каталунія, жнівень 2001 года*

*Фота Алены АДАМЧЫК*

# Сям'я Сімуковых

У свой час мне пашчасціла сустрэцца і пазнаёміцца з выдатным драматургам А. Сімуковым. Аляксей Дзмітрыевіч жыў у Маскве. Але ён добра памятаў і незабываў родную вёску Сігееўку, што прытулілася ў цудоўным і прыгожым куточку Касцюкоўшчыны. Там прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады, адтуль пачаўся шлях у літаратуру.

Я ўважліва слухаў і занатаваў цікавы аповед А. Сімукова аб сваіх бацьках, старэйшых братах.

...Калісьці ў Сігееўцы жыла працалюбівая сям'я Дзмітрыя Андрэевіча Сімукова. Бацькі Дзмітрыя пазналі ўсе жудасці прыгонніцтва. А вось самому яму пашчасціла. Сын селяніна-прыгонніка, дзякуючы сваім здольнасцям, трапіў з глухамані ў сталіцу, паспяхова скончыў славуты Санкт-Пецярбургскі універсітэт.

Наталля Якаўлеўна — жонка Дзмітрыя Андрэеевіча — таксама чалавек цікавага лёсу. Дачка ўрача, удзельніка Севастопальскай кампаніі, саратніка Пірагова, скончыла вядомыя Бястужаўскія курсы. Настаўнічала ў прыватных гімназіях, а ўжо будучы маці трох дзяцей, вытрымала першы ў Расійскай імперыі дзяржаўны экзамен, які ўраўняў яе як выкладчыка ў правах з мужчынамі ў выкладанні асноў навук у казённых мужчынскіх і жаночых гімназіях.

Нічога падобнага дагэтуль не назіралася. Нават не было такіх бланкаў для пасведчання, і кіраўніцтва вучэбнай акругі вымушана было выдаць часовае. Наталля Якаўлеўна 15 год настаўнічала ў Сінееўцы.

Родны брат Д. Сімукова Іван быў членам РСДРП. У 1905 годзе прыехаў на Касцюкоўшчыну, арганізоўваў рэвалюцыйныя сходкі, распаўсюджваў бальшавіцкія лістоўкі, падвяргаўся паліцэйскім рэпрэсіям. Памёр у 1914 годзе. Старэйшы сын Д. Сімукова, Андрэй — былы вучань вядомага рускага даследчыка Манголіі П. К. Казлова, прадаўжальніка справы М. Пржэвальскага, удзельніка шматлікіх экспедыцый у Манголію. Упершыню прыехаў у гэтую, тады далёкую краіну ў 1923 годзе з экспедыцыяй П. Казлова, універсальнага даследчыка прыроды Цэнтральнай Азіі.

У час першай паездкі ў Манголію Андрэй Дзмітрыевіч пачаў вывучаць мангольскую мову. У далейшым у ёй веды ўдасканаліў. Пісаў, размаўляў свабодна, настолькі добра, што, дакладваючы ва ўрадзе МНР аб выніках экспедыцыйных работ, уразіў усіх.

Праз тры гады пасля ад'езду экспедыцыі Казлова на радзіму Андрэй Сімукоў (яму тады споўнілася ўсяго 24 гады) быў запрошаны ў Мангольскую Народную Рэспубліку і пачаў працаваць у камітэце навук — цяпер Акадэмія навук МНР.

Вось радкі з пісьма Андрэя да маці: "Палюбіў Манголію моцна, яе стэпы, лясы, і горы зрабіліся зусім блізкімі мне... У маёй цяперашняй працы творчых магчымасці невычарпальныя і рознабаковыя. Мне заўсёды бачны дробязі і прабелы ў практычным вывучэнні краіны, і я маю магчымасць іх запаўняць". У 1927 годзе Андрэй Сімукоў прызначаецца загадчыкам геаграфічнага аддзела камітэта навук МНР, на гэтай пасадзе працуе дванаццаць год.

Знаходзячыся ў Манголіі, ён дапамог стварыць адно з першых мангольскіх сельскагаспадарчых аб'яднанняў "Іх Тамір" у Ара-Хангайскім аймаку, заклаў першы камень у будаўніцтва новага горада Далан-Дзадгад-аймачнага цэнтра ў Гобі. Прымаў удзел у пошукавых работах пры будаўніцтве першага буйнога прадпрыемства МНР — сталічнага прамысловага камбіната. А. Сімукоў — аўтар Геаграфічнага атласа Манголіі, які быў выдадзены Мангольскай дзяржаўнай друкарняй у 1934 годзе. Яго пяру належаць навуковыя працы "Геаграфія МНР", "Габійская ўскраіна МНР", "Цэнтральны Хангой", "Заходняя Гобі" і шэраг капітальных артыкулаў, як "Схема будаўнічых комплексаў МНР", "Габійскія пашы" і інш.

Выдатны вучоны А. Сімукоў указам вярхоўнага органа народнай улады Манголіі быў узнагароджаны ордэнам "Палярнай зоркі". Андрэя Сімукова помняць і сёння ў Манголіі, чытаюць і перачытваюць яго кнігі.

Помняць свайго выдатнага земляка і на радзіме яго, у Касцюковіцкім раёне. Сам А. Сімукоў быў членам двух творчых саюзаў — пісьменнікаў і работнікаў кіно, аўтарам як п'ес, так і кінасцэнарыяў, выкладаў у Літаратурным інстытуце, з'яўляўся галоўным рэдактарам сцэнарнага аддзела тагачаснага Міністэрства кінематаграфіі, намеснікам галоўнага рэдактара рэдкалегіі Міністэрства культуры СССР, старшынёй прафесійнага камітэта Маскоўскіх драматургаў.

**Уладзімір ЛАМІНСКІ**

**Сябры мастацкай суполкі "Пагоня" выказваюць шчырае спачуванне мастаку Алегу КАРПОВІЧУ ў сувязі са смерцю бацькі.**

# Абыпраштоські

Ад сусветнай тугі, ад адзіноты, урэшце, ад няма чаго рабіць ён, апантаны пачуццём нечаканага наслання, стварыў зямлю і неба, акіяны і рэкі, звяроў і птушак. Атрымалася няблага. Натхнёны радасцю доўгачаканага разняволення, ён узяўся за чалавека. Хіба ж ведаў, што ўтворыць? На такія жахлівыя памылкі здольны толькі сапраўдны творца. І зараз, звесіўшы з воблака старэчыя натомленыя ногі, ён з агідаю пазірае на грэшную зямлю. Перажывае страшэнна. І бачаць яго час ад часу толькі абраныя: дзеці, п'яніцы, паэты і вар'яты... Вунь плывуць па небе ягоныя парэпаныя пяты!

●

Знаёмая настаўніца расказвае:

— Ёсць у нашым мястэчку школка музычная. Талентаў сярод дзетак — мора! А інструментаў не хапае. Пайшла ў райвыканкам выбіваць. "А навошта вам тры баяны? — кажуць. — І аднаго хопіць". Так мне крыўдна стала! Прайшлася па кабінетах равыканкамаўскіх. І ў кожным камп'ютэр працуе — чыноўнікі гульнямі забаўляюцца. "Навошта вам столькі? — пытаюся. — І адным бы абышліся!" Ледзь не плачу, а яны не разумеюць — смяюцца...

●

Шкада, але не напішу пра многае. Не па прычыне ляноты і нерашучасці, а з-за невядома калі і як усвядомленага, што не ўсё можна асадкай, фізічным рухам, словам. Не напішу, да прыкладу, пра боль, у выніку якога нараджаецца жыццё. Не, баліць пастаянна, але не тое і не там... Пра вясёлых і заможных беларусаў не напішу. Проста не паспею зафіксаваць. А сотня цвярозых, жыццярадасных і мэтанакіраваных, якіх бачу штодня на вуліцы ці па БТ, — здаецца, і не беларусы. А іхні патрыятызм і жвавасць — па разнарадцы зверху... Не здолею пра імклівае і пераможнае развіццё калгаснай вытворчасці, хоць і спрабаваў па загадзе не раз: "Сёлета, Ганна, на камбайнерскі рэкорд пайду. Падтрымаеш, любая?" — "Падтрымаю, Васіль! Папрацуем, каб Айчына расквітнела!" Напружана, па-мастацку, са стваральным пафасам, але чамусьці не пераконвае... Не атрымаецца пра многае. Як пахне снег увесну, як незаўважна сталее сын, як перажывае за ўсіх нас мама... Не напішу, бо не хопіць слоў. Не, слоў мо і хопіць, але не здолею расставіць іх як мае быць. Ну і дзякаваць Богу, што не напішу. Больш Праўды застанецца.

●

Вандроўнікі-мінчукі прывезлі мне ў падарунак з-пад Нарачы слова "бындра". Доўга тлумачылі сэнс: "Вось выйдзеш за вёску, паблукаеш па лесе, абмінеш балота, прадзярэшся за поплавам скрозь хмызняк і патрапіш урэшце на бындру — ні лес, ні поплаў, ні балота, ні хмызняк. Так, абы-што, нікчэмная зямля, як плешына на аблавушцы, нават трава на ёй грэбуе расці..." Я ад падарунка не адмовіўся. Пакаштаваў на смак дый паклаў сабе асцярожна паміж словамі "булбатка" і "бязладдзе". Хто маркі збірае, хто — грошы. Я — знакі прыпынку і словы. Хто на што вучыўся.

●

Яны не бачыліся сто гадоў — колішнія сябрукі, не разлі вада. І калі адзін патэлефанаваў невядома з-за якіх гор і акіянаў, другі напалохаўся. Так дранцвееш, калі знянацку ў выпадковым люстэрку бачыш свой зморшчынены твар... Напалохаўся, бо здалося, што гэта ён сам патэлефанаваў сабе, састарэламу, з маладосці. Недарэчная гульня часу ў прасторы. Але сустрэча адбылася. У самы здатны для гэтага момант, калі нахабны зімовы адвячорак з цікаўнасцю плюшчыць нос аб шкло кухоннага акна. Калі ўтульна і хочацца гаварыць, слухаць і разумець. Сустрэча адбылася. І яны сядзелі ў цесным пакойчыку на трэцім паверсе, пілі нясмачную каву, слухалі па бабінніку Акуджаву, Высоцкага і "Песняроў" (тых старых, сапраўдных), гаварылі пра крызіс сярэдняга ўзросту, пра ўласных дзяцей, якія чамусьці не чытаюць кніжак, пра ўласных жонак, якія чамусьці сталіся быць жонкамі, ператварыўшыся ў маці сваіх сыноў і дачок... Словам, яны рабілі ўсё, што маглі, яны вельмі стараліся, але ў іх нічога не атрымалася: успомніўшы сябе маладых, яны так і не здолелі зразумець сябе сённяшніх. Дарэмная згуба часу! Хіба ж варта развітвацца з сябрамі на сто гадоў? Ноч расчаравана адхіснулася ад кухоннага акна. А ён, уздыхнуўшы з палёгкай, ледзь паспеў на апошні тралейбус і апошні цягнік да сваіх гор і сваіх акіянаў.

●

— У твае гады Гайдар камандаваў палком! А твой дзед, паспеўшы папрацаваць на трактары, збег на Вялікую Айчынную.

— А ў твае гады Напалеон ужо заваёўваў краіны!

— Лепей заваёўваць розумы, чым краіны.

— Ну хопіць! Лухта ўсё! Лепей паслухай, якую я п'есу для гітары вывучыў...

І я слухаю. І мне падабаецца. Бо я не ўмею (яшчэ ці ўжо?) шмат з таго, што ўмее мой сын. Як файна гучыць гітара!

●

Ох ужо мне гэтыя таямніцы творчасці! Бальзак у час працы не абыходзіўся без кавы. Пасля кожных пяцідзесяці радкоў Дзікенс выпіваў шклянку гарачай вады. Брамс дзеля натхнення ваксаваў абутак. Мендзялееў — ладзіў чамаданы. Арыстоцель — паляваў за матылькамі. Шуберт — іграў на грабянцы, Бетховен — адрошваў бараду. І ўсё ў іх, дзякаваць Богу, атрымалася... А Прайдзісвет Прайдзісветыч Пустадомскі — чалавек немудрагелісты і без прэтэнзій. Кавы не п'е, абутак не ваксуе, матылькоў на дух не пераносіць. Проста сядае да рабочага стала і піша: пяць старонак да абеду, чатыры — пасля. І ніякіх безразважлівых учынкаў! Бездакорна адладжаная пісьменніцкая машына, пракатны стан, дый годзе! І ў ягонай шафе — дваццаць ягоных кніжак. Іх ніхто не чытае, нават ён сам. Але і ў яго ўсё атрымалася. Заслужаны, аблашчаны, ледзь не народны. І пры чым тут нейкія творчыя таямніцы?

●

Здаецца, "жалезная" Тэтчар сказала: "У нас няма антысемітызму, таму што англічане не лічаць сябе дурнейшымі за габрэяў..." Вось чаму на Беларусі так не любяць беларусаў.

●

Я прачнуўся ад таго, што выпаў першы снег. Прачнуўся ў салодкім і радасным чаканні. Не было неба, зямлі і праспекта. Толькі ноч у акне і снег, па якім чарадою маўкліва і неўтаймавана імчаліся вершнікі. Пасярод напалоханага горада — коні-здані, раз'юшаныя сагнутымі ў крук бязлітаснымі гаспадарамі. Замест галоў — рогі ды пустыя вачніцы. Замест парошы ўслед за пачварнай віхурай — калатуша-гразь. Я не здзівіўся, калі чорная чарада збочыла і згрувасцілася ў чаканні пад маім акном. Я не здзівіўся, што адзін конь — пад сядлом і без вершніка. Я ведаў, для чаго. Я даўно гэтага чакаў. "Куды ты, Стах?" — скрозь сон запыталася маці. Я не адказаў. Грымнуўшы дзвярыма і не чакаючы ліфта, зляцеў уніз па прыступках. З радасцю ўсхрапнула дзікая хеўра. Хто адмовіцца папаляваць па першым снезе?..

Я даўно не быў дома. Я забыўся на матчын твар. Я стаў самім сабой. Я знайшоў сваё шчасце. Не кожнаму так шанцуе. Пад маім капытом чвякае першы снег...

**Яўген РАГІН**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## Запрашае "Змена"

20 студзеня ў 11. 00 у кінатэатры "Змена" адбудзецца кінамерапрыемства, прысвечанае 110-годдзю Браніслава Тарашкевіча, вядомага беларускага грамадскага дзеяча, літаратуразнаўцы і перакладчыка.

Прыхільнікам беларускага кінамастацтва прапануюцца фільмы рэжысёра-кінадакументаліста Юрыя Лысятава:

"Радашковіцкія ростані";
"Дзядзька Уласаў";
"Зямля Тарашкевіча".

На сустрэчы з кінагледачамі прыйдуць народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, дактары навук Арсен Ліс, Адам Мальдзіс, Уладзімір Міхнюк, кандыдат навук Віталь Скалабан, пісьменнік, літаратуразнаўца Уладзімір Содаль.

ПАРОДЫІ

Анатоль ЗЭКАЎ

## *На першы, другі разлічыся...*

Віктару ЯРАЦУ,
складальніку рэйтынгу
100 беларускіх паэтаў
XX стагоддзя
*"Маладосць", 2001, № 9*

*На рэйтынгі наш*
*час багаты —*
*Хто толькі*
*не складае іх!*
*Адным яны*
*прыносяць радасць,*
*Другіх жа б'юць*
*пад самы дых.*

*Але ці думаў*
*хто пра гэта,*
*Што дажывем*
*да той пары,*
*Калі аднойчы і паэтам*
*Прысвоіць Ярац нумары.*

*Ото ж дадумаўся*
*ўсё-ткі*
*Падчас выкладчыцкіх*
*турбот.*
*Відаць, што выпіў*
*ён не "сотку",*
*Хутчэй — не ўклаўся*
*і ў 500.*

*Разбіўшы на*
*дзесяткі, строга*
*Расставіў па*
*ранжыру ўсіх.*
*Хоць не чытаў даўно*
*ўжо многіх,*
*Ды хто цяпер*
*чытае іх?*

*Аж 100 паэтаў*
*ён уважыў*
*(Ці то на іх*
*сышоўся клін!)*
*А шмат каго*
*і не заўважыў,*
*Не ўспомніў нават,*
*сукін сын!*

*Ды не крыўдуйце,*
*хто не ўбіўся*
*Ў абойму, у якой*
*не ўсе.*
*Магчыма,*
*Ярац памыліўся*
*І праўкі нейкія ўнясе.*

*А можа, й сам*
*сябе ён лае,*
*Што мусіў*
*сціпласць праявіць*
*І Яраца*
*ў канец паставіць,*
*Хоць мог бы ўрэшт*
*і першым быць.*

*...Ўсё ж хто б і як*
*яго не ганіў,*
*У кандыдатах*
*грэх трымаць.*
*Пара даць*
*доктарскае званне*
*Ці дактарам*
*хоць паказаць.*

*12.01.2002*

Сяргей ДАВІДОВІЧ

## Ёкарны бабай

Хвядос толькі што прачнуўся і сядзеў у споднім за сталом. Ён адсёрбваў з трохлітровіка агурочны расол, выплёўваў кроп, смародзінавае лісце і між справай распавядаў свайму сябру, які прыйшоў адведаць Хвядоса:

— О-о, ёкарны бабай, учора ўзяў на грудзі!.. Пасля першых трох мярзаўчыкаў — ні ў адным воку. Праўда, пасля наступных трох закідонаў з прычэпам — затырчаў! Сёння, бляха, — буксы гарацць, хоць 01 выклікай...

Міхась, яго сябар, насцярожана паказаў поглядам на жанчыну, якая сядзела на канапе і ўсім сваім знешнім менталітэтам ніяк не ўпісвалася ў тутэйшы лад жыцця.

— А-а! — зразумеў Хвядос. — Не бойся! Яна ні халеры па-нашаму не разумее. Прыперлася ў госці з Амерыкі нейкая радня: быццам па дзедавай прабабцы залоўка ў пятнаццатай стрэчы... Як кажуць, пень гарэў — чорт плечы грэў...

— А хоць сабе і разумее! — прыбадзёрыўся Міхась. — У нашага арганізма свае малекулы, у іхняга свае...

Хвядос яшчэ раз сёрбануў расолу і запытаўся:

— А ты?..

Міхась, які паспеў сёння "патушыць" свае буксы, ажывіўся:

— Я?! Я ўчора захмяліў лыч па першае чысло! Спачатку хлабыснулі па фаўсту на кожнае рыла. Во! Міравое чарніла! Затым раздушылі двух буслоў і яршом завяршылі... Поўны атас!

Амерыканка, якая, здавалася, не звяртала ўвагу на размову сяброў, раптоўна спыталася:

— Скажытэ, что есть ёкарны бабай?

— Ты ж казаў, яна нічога не разумее! — зашыкаў на сябра Міхась.

Хвядос спакойна дапіў расол, выцер даланёй залітыя грудзі і супакоіў:

— Бачыш, пытаецца. Значыць, нічога не цяміць па-нашаму, па-еўрапейскаму. — Потым павярнуў галаву да далёкай сваячаніцы:

— Ёкарны бабай на вашу мову не перакладаецца! Ясна?

— Не ясна, — прызналася госця. — І фсё ж, этот ёкарны бабай есть чэлавек, ці горад, ці фірма?

— Фірма! — пацвердзіў Хвядос.

— На ўсякі выпадак, трэба трымаць язык за зубамі, — папярэдзіў Міхась.

Хвядос ажно падскочыў:

— Ды пайшло яно ўсё! Буду я баяцца ў сваёй хаце! Зараз зганяем у краму і...

Тым часам амерыканка зноў спыталася:

— Скажытэ, что есть горят баксы? Это что, кто-то горит долары?

— Во чэпіцца! — плюнуў Хвядос. — Гарацць, гарацць вашы долары! Сінім полымем гарацць! Ясна?

— Не ясна, — зноў прызналася ўедлівая амерыканка. — Почему у вас гореть долары, когда вы едите одно сало?..

— Во зануда! — ускіпеў Хвядос — Міхась! Скажы ты ёй пару ласкавых!

Міхась, які, як вядома, паспеў зраніцы патушыць свае буксы і патраціць на гэта свае "баксы", цярпліва патлумачыў заакіянскай дасціпніцы:

— У нашага арганізма свая табліца Мендзялеева, у вашага — свая. Тундра!

— Правільна! — пацвердзіў Хвядос і працягваў перарваную думку: — Вось зганяем зараз у краму і...

Але з канапы зноў пачулася:

— Скажытэ, что есть...

Хвядос аж падскочыў:

— Што есць, тое і есць, а чаго няма, таго няма! Ясна?!

— Не ясна, — прызналася замяжоўка. — Скажытэ...

Хвядос шмаргануў вышэй кальсоны:

— Пайшлі, Міхась, на двор! Не дасць пагаварыць!..

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІК
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"
ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар
Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ,
Алесь ГАЎРОН — *адказны сакратар,*
Мікола ГІЛЬ,
Уладзімір МАРУК — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Яўген РАГІН,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-7985
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8462
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462
Тэл./факс — 284-7965

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2601
Нумар падпісаны ў друк 17.01.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 307

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12